PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 22 (1985) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 29 МАЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*„Родныя" краявіды.* Фота У. Завадскага

## ЗАПОЙ

Алкаголь спадарожнічае чалавеку з першых дзён ягонага жыцця. Распачынае ён свой шлях, наогул, сярод брынкання кілішкаў ды тостаў, якія выпіваюць родныя на хрэсьбінах. Калі ж дойдзе да зыходу жыцця, тосты будуць неад'емнай часткай хаўтурнага пачастунку. А ў гэтым жа прамежку зямнога існавання будуць яшчэ незлічоныя іменіны, дні нараджэння, больш або менш узнёслыя гадавіны, святы ці проста нагоды...

Смяротная для чалавека порцыя алкаголю — так мяркуюць лекары — 4 праміла (чатыры адзінкі на тысячу адзінак масы крыві). „Норма" гэтая даволі ўмоўная і прыблізная. Няма таксама згоды наконт таго, колькі трэба выпіць, каб давесці сябе да такога стану. Усё тут абумоўлена фізічным станам чалавека, характарам, а нават акалічнасцямі, у якіх праходзіць выпіўка.

— Бываюць усякія кур'ёзныя выпадкі, — успамінае дырэктар бальніцы ў Бельску-Падляшскім спадар Мадзалеўскі. — Сам памятаю, як у семідзесятых гадах асабіста вырaтаваў я аднаго, што меў у крыві 7,2 праміла. Быў гэта не абы-які здаравяка.

Уся бяда заключаецца ў тым, лічыць дырэктар бельскай бальніцы, што людзі п'юць „да канца" — купляюць удвайх літр спірту на рыначку, а гэта амаль пяць бутэлек гарэлкі, выпіваюць гэта і вельмі часта яшчэ бывае ў іх нейкі працяг. Такім чынам і з'яўляюцца смяротныя выпадкі ад алкагольнага запою (upojenia alkoholowego). Вострыя алкагольны запой характэрны спячкай і цяжкасцямі ў дыханні.

У першым квартале гэтага года, паведаміла жонка дырэктара бальніцы — таксіколаг Тэрэса Зачэк-Мадзалеўская, трапілася ўжо 63 выезды хуткай дапамогі да п'яных, у гэтым ліку 2 выезды да моладзі. З прычыны алкаголю апынуліся ў прыёмнай бальніцы 31 чалавек. Найгоршае, аднак, у гэтым усім тое, лічыць пані Тэрэса, што п'яных трактуецца як і іншых хворых. Мы іх пакормім, кажа, накормім, напоім, падключым кропельніцу, а яны не адчуюць ні малейшай нягоды. Хай бы памылі пасля сябе прыёмную. Адзін выезд хуткай дапамогі — не жарт — каштуе прыблізна 800 тысяч.

Як прынцып, на працягу ўсяго года трапляецца некалькі выпадкаў алкагольнага запою сярод дзяцей. У бельскую бальніцу трапіў аднойчы 4-гадовы хлопчык. Паводле таго, што сказала яго маці — хлопчык выпіў 150 мілілітраў спірту. На фізічныя ўмовы чатырохгодка ў крыві апынулася 4,2 праміла алкаголю, больш за смяротную норму. Адратавалі яго. Наступнага дня хлопчыка адведаў у хаце лекар. „Хіба больш, гаўнюку, і ў рот гэтага не возьмеш" — заўважыў ён. Хлопец перажываў якраз „сіндром другога

☞ Працяг на стар. 3

## ХОЧАМ ПРАТРЫМАЦЦА ЯК НАЦЫЯ!

Пуньск — гэта маляўнічы гарадок недалёка літоўскай мяжы. Налічвае ён звыш тысячы жыхароў, у большасці літоўцаў. Тут знаходзіцца цэнтр культурнага, палітычнага і гаспадарчага жыцця літоўскай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Існуе таксама тут літоўскае школьніцтва.

Мэтай майго падарожжа было наведаць якраз літоўскі ліцэй. Знайшоўшыся ў Пуньску, я адразу адчула незвычайнасць гэтага месца. Усе напатканыя групы людзей гаварылі толькі па-літоўску. У час майго трохгадзіннага знаходжання ў школе, **я ні разу не пачула польскай мовы**. Усе справы, прыватныя і службовыя, афармляліся на роднай мове. Папольску гаварылі толькі са мной.

— Выхаванне і адукацыю трэба пачынаць з дзіцячага садзіка, — заявілі мне спадарыня Марыянна Чарняліс — дырэктар ліцэя і Ян Нівуліс – дырэктар пачатковай школы.

Дзіцячы сад, пачатковая школа, агульнаадукацыйны ліцэй і сельскагаспадарчая прафесійная школа знаходзяцца ў адным будынку. Новую школу пабудавалі 15 год таму, зараз жа яна перапоўнена і патрабуе рамонту. Дзеля дыдактычных патрэб выкарыстоўваюцца таксама памяшканні інтэрната. Дзеткі пачынаюць навуку на роднай мове шасцілеткамі. Далей працягваюць сваю адукацыю ў пачатковай школе. **Польскую мову пачынаюць вывучаць з 2 класа, як дадатковы прадмет.** Наогул, пасля пачатковай школы паступаюць яны ў агульнаадукацыйны ліцэй ці сельскагаспадарчую школу, дзе вучацца на сваёй роднай мове. У пачатковай школе два аддзелы — літоўскі і польскі. На 380 дзетак, 90 вучыцца ў польскім аддзеле. Таксама на 40 настаўнікаў толькі 10% гэта палякі.

Гэтыя лічбы больш-менш адлюстроўваюць нацыянальны склад гарадка, — паясняе дырэктар пачатковай школы Ян Нівуліс.

Варта дадаць, што большасць дзетак з літоўска-польскіх сем'яў вучыцца ў польскім аддзеле. Мяшаныя сужонствы пераважна асімілююцца ў польскі бок. Бываюць выключэнні.

У ліцэі 120 вучняў. Навучае іх 12 настаўнікаў. Таксама паасобныя прадметы выкладаюць настаўнікі з пачатковай і сельскагаспадарчай школ. Усе ўрокі праводзяцца на літоўскай мове. Толькі гісторыя і польская літаратура адбываюцца на польскай.

— Настаўнікі і вучні нашага ліцэя за тым, каб гісторыю выкладаць па-літоўску. Можна дапусціць, што гісторыя Польшчы па-польску, гэта яшчэ зразумелая справа, толькі **чаму нам вывучаць ўсеагульную гісторыю па-польску?** — кажа пані дырэктар.

Уступныя экзамены кандыдаты ў ліцэй здаюць па польскай мове і матэматыцы. Дадатковa праводзяцца з імі кваліфікацыйныя размовы (па-літоўску) аб культуры і гісторыі Літвы.

— Здараецца, што паступаюць у наш ліцэй вучні, якія ніколі не вучыліся ў школах сваёй роднай мовы. Аднак, усе гэтыя кандыдаты дома навучыліся пісаць і чытаць па-літоўску. Веданне мовы неабходнае для далейшага навучання. Апрача мясцовых у Пуньск паступаюць вучні з Сейнаў і Сувалкаў. Пры школе знаходзіцца інтэрнат з 80 месцамі. Вядуцца старанні, каб урэшце арганізаваць літоўскія школьныя асяродкі ў Сейнах. Там якраз выступае найбольшая асіміляцыя.

— **Калі няма нацыянальнай школы, народ гіне,** — сцвярджаюць мае размоўцы — дырэктары школ і старшыня Управы Літоўскай супольнасці Юзаф Сыгіт Фаранцэвіч.

Цікава было пачуць, што праблемы літоўскай меншасці нагадваюць таксама нашыя беларускія цяжкасці. Настаўнікі наракалі, што не могуць дачакацца новых падручнікаў па літоўскай літаратуры. Час ад часу карыстаюцца падручнікамі з Літвы, аднак, іх змест не адпавядае патрэбам тутэйшых літоўцаў, не пристае да тутэйшых рэаліяў. Няма таксама перакладзеных падручнікаў па ўсіх прадметах, і таму на некаторых уроках вучні карыстаюцца польскімі кніжкамі.

Настаўнікі заявілі, што ненайлепш выглядае супрацоўніцтва з Куратoрыяй у Сувалках, якая не дазволіла паклікаць на пасаду візітатара кандыдата ад літоўцаў. Таксама ў школах, дзе ўрокі літоўскай мовы вучні наведваюць па прынцыпу добраахвотнасці, абмяжоўваюцца гадзіны навучання і тлумачыцца гэта ашчаднасцю. Літоўцы, аднак, безупынна вядуць змаганні. Да нядаўна дзейнічала Таварыства Святога Казіміра, якое мела за мэту абарону літоўскай асветы. Таварыства аднак ужо не дзейнічае. Настаўнікі мараць аб стварэнні літоўскай настаўніцкай арганізацыі.

☞ Працяг на стар. 8

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Religia zawsze była w awangardzie naszej polskości. Natomiast za pośrednictwem języka białoruskiego duchowieństwo sprzyja asymilacji ludności polskiej zamieszkałej na Białorusi. Znajomość języka określa przynależność narodową, bez języka naród nie może istnieć, wynarodowi się i zginie. Pięćdziesięcioletnia okupacja zrobiła swoje. Należy odrodzić nasz piękny język, kulturę i tradycje. Nasze dzieci i wnuki to nasza przyszłość. W kościołach na Białorusi nauka religii powinna odbywać się wyłącznie w języku polskim, dzieci łatwo się uczą... Nam Polakom w kościele potrzebni są księża-Polacy z ich entuzjazmem patriotycznym.*

*(Głos znad Niemna, nr 16)*

Гэта ж так простае і зразумелае, што не асмелімся нават спытаць: а што з каталікамі-беларусамі, якія складаюць большасць гэтага веравызнання ў Беларусі?

* * *

*Aż 79 proc. badanych Polaków zaakceptowało twierdzenie: „Dyscyplina i posłuszeństwo powinny być możliwie wcześnie wpojone dzieciom". Z twierdzeniem tym zgodziło się 23 proc. Niemców. Niby szczycimy się naszym umiłowaniem wolności i kokietujemy wrodzoną tendencję do anarchiczności, a w rzeczywistości jesteśmy społeczeństwem totalitarnym. Nie jest to wpływ minionego realsocjalizmu, lecz tradycyjnej rodziny, tradycyjnego Kościoła, tradycyjnej szkoły i telewizji.*

*(Polityka, nr 19)*

* * *

***Тут не Кебіч вінаваты, а стан беларускай нацыі. Такое грамадства будзе спаўзаць у склад Расеі, альбо ў стан яе калёніі. Калі б Валэнса запрасіў расейскія войскі застацца ў Польшчы, ці такое зрабіў Бразаўскас у Летуве то іх, мінаючы турму, адправілі б у псіхіятрычны шпіталь. Толькі такі дзікі на еўрапейскія меркі абсурд у Беларусі нармальная з'ява.***

***(Свабода, н-р 15)***

Кожны народ мае такіх палітыкаў, якіх сам сабе выхавае.

* * *

***Пакуль прадаюць Беларусь, пакуль пакутуюць простыя людзі, пакуль здраднікі і нягоднікі раскрадаюць народнае багацце, пакуль зневажаюць нашу мову і топчуць культуру — ніхто не зможа перашкодзіць мне займацца палітыкай,*** — заявіў лідэр БНФ Зянон Пазьняк.

***(Наша слова, н-р 17)***

* * *

*Rada Naczelna Polskiego Zjednoczenia Demokratycznego wystawiła kandydaturę przewodniczącego partii Edwarda Ochrema na prezydenta Białorusi.*

*(Głos znad Niemna, nr 16)*

Не выпадае нам нічога іншага зрабіць, як толькі вылучыць кандыдатуру старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Пятра Крука на пост прэзідэнта Рэчыпаспалітай.

* * *

*Po roku 1989 największymi nosicielami chamstwa stali się ludzie bogaci. Nowobogaccy odrzucili wszelkie autorytety, nawet intelektualne na rzecz narcyzmu. Przestali liczyć się z kimkolwiek i słuchać kogokolwiek, nawet lekarzy. Wszyscy od literata do ministra stali się figurkami do kupienia. Wszystkie te zjawiska wyzwoliły niesłychane chamstwo posiadaczy. Zazwyczaj są oni chamami i jako pracodawcy i jako interesanci urzędów, i jako podsądni pacjenci.*

*(Polityka, nr 18)*

* * *

*Niemal codziennie słyszymy od naszych sprawozdawców sportowych, że jakiś nasz reprezentant nie wytrzymał obciążenia psychicznego i zawiódł właśnie w najważniejszym momencie. Stres wysysa siły tylko z naszych zawodników, a dodaje animuszu sportowcom innych nacji.*

*(Wprost, nr 18)*

Відаць, кожны народ мае свае спецыфічныя прыкметы.

* * *

*Moja godność arcybiskupa odpowiada randze generała armii. Tak też się czuję. Jestem jednak w duszy zakonnikiem — podkreśla arcybiskup Sawa, ordynariusz diecezji białostocko-gdańskiej, wyznaczony do pełnienia godności biskupa polowego w Wojsku Polskim.*

*(Rzeczpospolita, nr 105)*

* * *

*Czym się różni Białoruś od Rosji? Jeśli w Rosji dałeś łapówkę dużemu naczelnikowi, to mniejsi już nie biorą, wykonują polecenia szefa. Na Białorusi wszyscy biorą, a MSW i prokuraturą rządzą ludzie powiązani z mafią,* — сказаў Аляксандр Лукашэнка, кандыдат на пост прэзідэнта Беларусі.

*(Nie, nr 18)*

Трэба мець нядрэнныя кантакты з мафійным асяроддзем, каб дайсці да такіх высноў.

* * *

*Prawosławny z Bielska, który już trzy lata szuka pracy, usłyszał niedawno od jednego ze swoich przyjaciół, kierownika poważnego urzędu, że dla innowierców jest tylko praca młotkowego. Przyjął tę obelgę spokojnie i czeka na wybory.*

*(Kurier Podlaski, nr 82)*

Мы ўпэўненыя, што гэты грамадзянін з Бельска пойдзе на выбары і аддасць свой голас на „сваіх", але мы таксама ўпэўненыя, што пан кіраўнік будзе надалей кіраўніком.

* * *

*Czym jest ciało? — niewidzialnym znakiem duszy. Czym jest dziewictwo dziewczynek? — ogrodem zamkniętym. Czym jest dziewictwo chłopców? — źródłem zapieczętowanym. Czym są organy płciowe? — źródłem życia, którego nie można niepotrzebnie dotykać. Czym jest stosunek seksualny? — osobowym oddaniem się i przyjęciem daru.*

*(Polityka, nr 19)*

Адказы на пастаўленыя пытанні рэдакцыя „Палітыкі" знайшла ў кніжцы „Życie i miłość" аўтарства Ванды Папіс. Міністэрства нацыянальнай адукацыі рэкамендуе кніжку школам як дапаможнік у сексуальнай адукацыі моладзі. Уяўляем сабе моладзь падчас чытання гэтай кніжкі і спачуваем настаўнікам.

# З мінулага тыдня

**На Монтэ-Касіна**, у 50 гадавіну перамогі польскіх салдат над немцамі ў бітве за кляштар бенедыкцінаў, адбылося набажэнства, якое служыў прымас Польшчы кардынал **Юзэф Глемп**. На гэтую ўрачыстасць прыехала ў Італію звыш сямі тысяч палякаў, галоўным чынам ветэранаў. Прэзідэнт **Лех Валэнса**, ушаноўваючы памяць усіх удзельнікаў бітвы, сказаў: „Схіляю галаву перад тымі, хто тут пакоіцца. Няхай ім пухам будзе гэтая зямля — чужая і заадно свая, бо акроплена польскай крывёю".

**Польшча мае добрыя кантакты з партнёрамі на ўсходзе** і яна ў змозе перадаваць інфармацыі аб пераменах у гэтых краінах заходнім установам, у тым ліку і Радзе Еўропы, — сказаў прэс-сакратар міністра замежных спраў **Гжэгаж Дземідовіч** падчас прэс-канферэнцыі ў Сейме. — Польшча часта прадстаўляе інтарэсы, між іншым, Украіны, **Беларусі** і краін Прыбалтыкі на міжнародных форумах. Згаданая канферэнцыя адбылася ў сувязі з пасяджэннем Камітэта Міністраў Рады Еўропы, якое праходзіла ў Варшаве ў рамках „Вясенніх сустрэч". Удзельнікі гэтых сустрэч прымалі ўдзел у пасяджэнні, між іншым, парламенцкай камісіі правоў чалавека.

**Маршалак Сейма Юзэф Алексы** і старшыня парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы **Мігель Марцінес** пасля сустрэчы ў Сейме заявілі, што Польшча з'яўляецца паўнапраўным актыўным членам Рады Еўропы, а не толькі яе госцем. На думку Марцінеса, цяпер няма перашкод на шляху інтэграцыі Польшчы з Еўропай.

**Эканамічны камітэт Рады Міністраў** адобрыў і рэкамендаваў ураду праграмы ў падтрымку польскай усходняй палітыкі, „Асновы палітыкі гаспадарчага супрацоўніцтва з усходнімі краінамі і з дзяржавамі Далёкага Усходу", а таксама графік дзеянняў, звязаных з ажыццяўленнем праэкспартнай палітыкі Польшчы.

**Польшча і Расея** заключылі ў Варшаве дамову аб выяўленні і ўзаемным вяртанні твораў мастацтва, захопленых у час II сусветнай вайны і ў яе выніку.

**НАТО** згадзілася прад'явіць **Расеі** спецыяльны статус у рамках ініцыятывы „Партнёрства дзеля міру". Такое рашэнне прынялі паслы 16 краін-удзельніц Паўночнаатлантычнага пакта. Згадзіліся яны таксама з тым, што ў справах еўрапейскай бяспекі неабходныя дадатковыя кансультацыі з Расеяй, прымаючы пад увагу яе „значэнне і размеры". Раней Расея адмовілася далучыцца да „Партнёрства дзеля міру" на варунках прапанаваных іншым яго ўдзельнікам.

**Украінскі віцэ-прэм'ер Валерый Шмароў** заявіў, што канчатковае рашэнне наконт закрыцця **Чарнобыльскай АЭС** будзе прынята ў ліпені г.г. падчас сустрэчы дзяржаў „вялікай сямёркі" ў Неапалі. Украіне патрэбны 6-8 мільярдаў долараў не толькі на забеспячэнне выключаных рэактараў, але і на пошук заменных крыніц энергіі.

Пасол Польшчы ў Расеі Станіслаў Цёсэк заявіў, што накіраваў у Генеральную пракуратуру справу аб высвятленні, пастаўленых яму прэсай, закідаў. Паводле апошніх прэсавых публікацый, нямецкая **Камісія Яахіма Гаўка**, якая займаецца даследаваннем дзяржбяспекі ГДР, мае доказы на тое, што ў 1981 годзе Станіслаў Цёсэк — тады сакратар ЦК ПАРП — заахвочваў краіны Варшаўскага дагавору да інтэрвенцыі ў Польшчы.

**XXXV Кангрэс Федэрацыйнай уніі еўрапейскіх этнічных груп**, адбыўся ў Гданьску. У выніку былі прыняты дзве рэзалюцыі ў справе „асноўных этнічных правоў у Еўропе" і наконт аховы правоў прыволжскіх немцаў ды каўказскіх меншасцяў — карачаеўцаў і балкарцаў. У кангрэсе, арганізаваным уладамі Гданьскага ваяводства і Кашубска-Паморскім аб'яднаннем пры фінансавай падтрымцы ўрада ФРГ, удзельнічалі прадстаўнікі меншасных арганізацый з 23 еўрапейскіх краін.

**У Беластоку** здадзена ў карыстанне аўтаматычная міжгародняя тэлефонная станцыя, дзякуючы якой жыхары Беласточчыны змогуць званіць па коду ва ўсе ваяводствы і ў звыш сто краін свету.

**Колішняя сінагога ў Мілейчыцах** занесена ў рэестр помнікаў культуры. Была яна пабудавана ў 1929 годзе. Пасля вайны змяшчаліся ў ёй кіно, дом культуры і бібліятэка. Будынак патрабуе неадкладнага рамонту. Пачаты раней рамонт быў спынены з-за фінансавых цяжкасцей.

**У Рыбалах** невядомыя злачынцы ўзламаліся ў „жалезную" краму, з якой вынеслі водаправодныя краны і электрапрыборы вартасцю ў 20 млн. зл.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"


- Знахаркі, варожкі і чары — штодзённая з'ява на беластоцкай вёсцы.
- З мінулага Нараўкі і аколіц.
- Юбілей гарадоцкага хору.
- „Дэнатуршчыкі" — рэпартаж Г. Кандрацюк і А. Максімюка.




# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Храм у гонар перамогі

У Брэсце ў гонар 50-годдзя вялікай перамогі над фашызмам будуецца Свята-Вазнясенскі сабор. Закладзены ён паблізу заходняй граніцы, на першым кіламетры аўтамагістралі Брэст — Масква. Сцены храма з белага каменю ўзнімаюцца ўсё вышэй і вышэй. Вядзецца гэтая будоўля за сродкі жыхароў Брэста пры актыўным удзеле мясцовых улад, калектываў прадпрыемстваў і банкаў. Ініцыятарам будоўлі стаў мясцовы святар протаіерэй Яўген Парфянюк, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ. Сваё бласлаўленне ўдзельнікам будаўніцтва прыслаў патрыярх Маскоўскі і ўсёй Русі Алексій II.

### Замежныя ўчасткі

На 125 млн. беларускіх рублёў папоўніліся рахункі Міністэрства замежных спраў. Менавіта такую суму Цэнтральная камісія па выбарах выдзеліла знешнепалітычнаму ведамству на правядзенне выбараў прэзідэнта Беларусі за граніцамі дзяржавы. За мяжой будзе створана каля дзесяці выбарчых участкаў, у спісы якіх плануецца занесці 2 — 2,5 тысячы чалавек.

### Перадвыбарныя кур'ёзы

Удзельнікі ініцыятыўных груп па збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты паведамляюць аб розных незвычайных сітуацыях, з якімі прыходзіцца ім змагацца. Напрыклад, былі выпадкі, калі мясцовыя ўлады перашкаджалі правядзенню сустрэч з выбаршчыкамі. Так, у Задняпроўскім раёне Оршы С. Шушкевічу не далі памяшкання, і ён быў вымушаны праводзіць сустрэчу на свежым паветры, а ў Пружанах яго не дапусцілі на тэрыторыю воінскіх часцей. Іншы выпадак здарыўся ў Пінску, дзе на пункт збору подпісаў у падтрымку С. Шушкевіча і З. Пазьняка напала група людзей камсамольскага ўзросту, якую ўзначальваў Міхаіл Лапко — член ЦК ЛКСМБ, першы сакратар пінскага гаркама. Абараняць пункт сталі тры дэпутаты гарадскога савета, а аднаму з іх, пакуль не падаспела дапамога амонаўцаў, прыйшлося нават выкарыстаць газавы балончык. А ў Менску на вуліцы Сурганава гаспадыня кватэры, даведаўшыся, чыя каманда зайшла да яе збіраць подпісы, вывела ў прыхожую дзвюх аўчарак і загадала гасцям неадкладна пакінуць кватэру. Тыя хуценька выйшлі і ў суседзяў даведаліся, што гэтую кватэру не так даўно „абчысцілі", а міліцыя да гэтага часу не знайшла злодзеяў.

### Ці будзе свой флот?

Беларусь працягвае настайваць на больш справядлівым падзяленні неваеннага флоту былога СССР. Як дагэтуль, асноўная частка гандлёвага і рыбалоўнага флоту была падзелена паміж дзяржавамі, да якіх партоў былі прыпісаны судны, у асноўным паміж Расеяй, Украінай і рэспублікамі Прыбалтыкі. Беларусь лічыць, што частка неваенных суднаў павінна быць бязвыплатна перададзена ёй, паколькі ў стварэнні флоту яна таксама прымала ўдзел. У сувязі з гэтым у Менску адбылася нарада экспертаў краін СНД і Прыбалтыкі.

### Вылет братніх авіятараў

Да верасня г.г. з тэрыторыі Беларусі будуць поўнасцю выведзены авіяцыйныя часці і падраздзяленні дальняй авіяцыі Расеі. Авіятары суседняй краіны пакінуць Баранавічы, Бабруйск, Мачулішчы і іншыя гарнізоны. Да гэтага часу спыніць сваё існаванне і авіяцыйная дывізія, штаб якой дыслацыруецца ў Бабруйску. Баявая тэхніка, абсталяванне, маёмасць будуць вывезены, а ваенныя гарадкі — перададзены Міністэрству абароны Рэспублікі Беларусь.

### Слаўны юбілей

Гэты год юбілейны для народнай артысткі Стэфаніі Станюты — 75 гадоў яна на сцэне. У гонар гэтай падзеі ў Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы адбыўся бенефіс актрысы, на якім сабраліся шматлікія сябры і калегі.

### Экалагічная тусоўка

На стыку трох граніц, дзе праходзіць водападзел Чорнага і Балтыйскага мораў, сустрэліся маладыя эколагі Беларусі і краін Усходняй Еўропы. Мэтай гэтай тусоўкі на прыродзе было абмеркаванне праблем навакольнага асяроддзя, пашырэння кантактаў у галіне культуры і палітыкі. Арганізатары лічаць, што трэба не толькі гаварыць, але часцей рабіць добрыя справы маці-прыродзе і таму ў праграму сустрэчы ўключылі правядзенне буйнамаштабных акцый па аднаўленню навакольнага асяроддзя. Узброіўшыся вёдрамі, матыкамі і рыдлёўкамі, маладыя эколагі ўзяліся за расчыстку закінутых куткоў прыроды.

### Не толькі вырошчваюць

Выпуск поліэтыленавай плёнкі для цяпліц пачалі ў калгасе імя Жалезняковіча Карэліцкага раёна. У падсобным цэху ўстаноўленая паточная лінія прадукцыйнасцю да 2 тон у дзень. Прадукцыя карыстаецца вялікім попытам. Тут выпускаюць і тару для Менскага гадзіннікавага завода, т.зв. в'етнамскія шорты, тэлефонныя апараты і розныя сувеніры.

### Мяккія ўзнагароды

Незвычайныя ўзнагароды былі прысвоены лепшым работнікам калгаса „Шлях Леніна" Баранавіцкага раёна. Даяркам Галіне Міклашэвіч і Ніне Шамілавай уручана па пясцу, а цялятніцы Леакадзіі Шырко ў якасці падарунка дасталася шкурка норкі. Мяккае „золата" калгас здабывае на сваёй уласнай звераферме.

# ПАВЕДАМЛЕННЕ

**Пасольства Беларусі ў Варшаве** інфармуе ўсіх грамадзян Беларусі, якія пражываюць у Польшчы пастаянна альбо часова, што 23 чэрвеня г.г. адбудуцца выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Для Вас, паважаныя грамадзяне Беларусі, створаны тры ўчасткі для галасавання:

— **у Беластоку** (будынак Генконсульства РБ па вул. Варыньскага, 4; тэлефон 522-875);
— **у Варшаве** (будынак Пасольства РБ па вул. Атэньскай, 67; тэл. 617-23-91; 617-39-54);
— **у Гданьску** (будынак Генконсульства РБ па вул. Яськовая Даліна, 50; тэл. 41-00-26).

Выбарчыя камісіі на гэтых участках працуюць у рабочыя дні з 8 да 16 гадзіны. Участковыя выбарчыя камісіі ў Беластоку, Варшаве і Гданьску не пазней за 12 чэрвеня накіруюць па пошце інфармацыю аб кандыдатах у Прэзідэнты і асабістыя запрашэнні для галасавання ўсім грамадзянам Беларусі, пра якіх маюцца звесткі аб месцы жыхарства ў Польшчы.

Для грамадзян Беларусі, якія паведамяць у Пасольства аб немагчымасці з'явіцца на адзін з участкаў для галасавання 23 чэрвеня, будзе арганізавана галасаванне выязной участковай камісіі:

— у **Катавіцах** — 18.06, гадз. 8.00—12.00;
— у **Кракаве** — 18.06, гадз. 14.00—18.00;
— у **Лодзі** — 21.06, гадз. 12.00—18.00;
— у **Зялёнай Гуры** — 18.06, гадз. 8.00—12.00;
— у **Познані** — 18.06, гадз. 15.00—18.00;
— у **Любліне** — 18.06, гадз. 12.00—17.00;
— у **Бялай-Падлясцы** — 21.06, гадз. 12.00—18.00;
— у **Шчэціне** — 18.06., гадз. 12.00—17.00.

**ПАСОЛЬСТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ПОЛЬШЧЫ**

# У ЧАРОМХАЎСКІМ ДОМЕ КУЛЬТУРЫ

Чаромхаўскі Гмінны асяродак культуры (ГОК) змяшчаецца ў колішнім чыгуначным клубе „Калеяж". Карыстаецца ён гэтым памяшканнем з 1 мая 1993 года. Да гэтага часу, як не дзіўна, Гмінны асяродак культуры не меў свайго будынка і мерапрыемствы ладзіў у гасцінным клубе. Апошнім часам улады ПКП абмежавалі фінансаванне сваіх галіновых дамоў культуры і чаромхаўскі чыгуначны клуб перайшоў у распараджэнне ўлад гміны. Вось як успамінае мінулае гэтай культурнай установы дырэктар ГОК Тамара Кердалевіч:

— Клуб „Калеяж" чыгуначнікі пачалі будаваць у грамадскім пачыне ў 1960 годзе. Неабходныя будаўнічыя матэрыялы і фінансавую падтрымку забяспечыла Цэнтральная дырэкцыя ПКП у Варшаве, а рабочую сілу далі мясцовыя чыгуначнікі. Спатрэбіліся ім два гады выдатнай і самаахвярнай працы, каб у кастрычніку 1962 г. урачыста адкрыць прыгожы дом культуры. Яго загадчыкам стаў Мікалай Гарадкевіч — адданы культурны і грамадскі дзеяч, ініцыятар многіх культурных ініцыятываў. Кіраваў ён гэтай установай да адыходу на пенсію ў верасні 1992 года. Ужо ў першых днях сваёй дзейнасці Мікалай Гарадкевіч заснаваў музычны гурток, якім кіраваў Вальдэмар Савіцкі (ён і зараз тут працуе). У сямідзесятых гадах стварыўся тут духавы аркестр.

Спадарыня Тамара Кердалевіч стала працаваць у клубе „Калеяж" як культурна-асветны інструктар у 1977 годзе. У канцы гэтага ж года яна арганізавала лялечны тэатр, падбірала рэпертуар, была рэжысёрам, разам з вучнямі мясцовай пачатковай школы выконвала лялькі. Са сваім тэатрам Тамара Кердалевіч тройчы прымала ўдзел у аглядах лялечных калектываў і займала перадавыя месцы. Аднойчы чаромхаўскім лялечнікам давялося выступіць у беластоцкім тэатры „Свершч".

У канцы сямідзесятых гадоў мясцовы настаўнік Сяргей Смык арганізаваў пластычны гурток. Працы чаромхаўскага мастака-самадзейніка экспанаваліся на выстаўках і аглядах творчасці чыгуначнікаў у Варшаве і Тарноўскіх Гурах. Яго вучнем быў Андрэй Міркоўскі, які набыў вядомасць спецыяліста па графіцы і лінарыце ў катэгорыі мастакоў-непрафесіяналаў на Гайнаўшчыне.

Пра сённяшні Гмінны асяродак культуры яго дырэктар Тамара Кердалевіч расказвае наступнае:

— У далейшым працягвае працу музычны гуртор, якім займаюцца інструктары Вальдэмар Савіцкі, Барбара Кузуб і Юзэф Коркус. У гуртку дзеці вучацца іграць на гітары і акардэоне. На занятк і прыходзяць дваццаць дзетак. Апрача культурных мерапрыемстваў прыходзіцца нам займацца гаспадарчай дзейнасцю. Вядома, не хапае грошай і таму адкрылі мы міні-кафэ і пункт пракату відэафільмаў. У Гмінным асяродку культуры зараз чатырох штатных працаўнікоў: дырэктар, бібліятэкар і два інструктары. Усе мы — працаўнікі гміны. Кожную нядзелю арганізуем дыскатэкі для чаромхаўскай моладзі, а яе ў нас не так і мала. Многія жыхары ладзяць у нашым клубе вяселлі. Карысць з гэтага двухбаковая: мы зарабляем грошы, арандуючы памяшканне, а арганізатары вяселля пазбягаюць балагану ў хаце ды і гасцям у нашым клубе прасторна. У кастрычніку мінулага года арганізавалі мы „Дзень сеніёра" для ста пенсіянераў. З фінансавага боку імпрэзу забяспечылі кіраўніцтвы паравознага дэпо і шпалапрапітачнага завода. Цікавейшымі мерапрыемствамі апошняга часу можна палічыць канцэрт кабарэ Багдана Смоленя ці ансамбля з Крынак. Выступленні артыстаў вельмі цёпла ўспрымаліся гледачамі. Пачатак працы ГОК у новым памяшканні лічым удалым. Спадзяюся, што наш працоўны калектыў здольны зрабіць не адну добрую справу ў галіне культуры.

Поспехаў вам!

**УЛАДЗІМІР СІДАРУК**

# ЗАПОЙ

*Працяг са стар. 1*

дня", суха ў роце і так далей. „Халоднай смятаны піць не буду, бо на горла шкодзіць, — бойка адказаў хлопец, — а спірт хлщць буду". Выявілася, што хлопца напаіў бацька, які хацеў пахваліцца перад сваім братам, які то ў яго дарослы сын. Маўляў, пі сынок, то будзеш сапраўдным мужчынам. Гісторыя гэтая магла б быць забаўнай, калі б у гэтым месцы быў ейны канец, але ж праз пару дзён хлопчык гэты ізноў трапіў у бальніцу. Бацькава выпрабаванне сына настолькі пашкодзіла кару галаўнога мозгу дзіцяці, што выявілася ў яго эпілепсія.

Алкагольныя напоі, паводле пані Тэрэсы, падзяляюцца на чатыры катэгорыі. Першая з іх — легальны алкаголь з крамы, паводле статыстыкі кожны грамадзянін гэтай краіны выпівае яго 10-11 літраў у год. Далей ідзе ўсё тое, што не падпарадкоўваецца ніякай статыстыцы — спажывецкі і тэхнічны алкаголь з базару, пачэснае месца сярод якога займае спірт „Раял". Варта тут адзначыць адну „тэхнічную" дэталь — тэхнічны алкаголь гэта хімічна той жа алкаголь, што і спажывецкі, усяго толькі не ачышчаны, каб паўстрымаць людзей ад спажывання яго. У выпадку ж дэнатурату, алкаголь гэты мае агідны колер. Наступная катэгорыя — гэта, як называе яе пані Тэрэса, księżycówka, krzakówka, чамяргес. І апошні від, п'юць яго выключныя дэгенераты — „вынаходствы", прыкладаў якіх, з увагі на ролю прэсы ў грамадстве, прыводзіць не буду.

На пытанне, якім чынам тэхнічны алкаголь трапляе ў грамадства, у бельскай бальніцы не змаглі адказаць. З Усходу — і паціскаюць плячыма. На базары нібыта яго няма, але калі добра пашукаць, то можна набыць і спажывецкі, і тэхнічны „Раял".

Бельская бальніца, заўважу на заканчэнне, дабілася самых нізкіх паказчыкаў смяротнасці сярод нованароджаных. У апошні час, аднак жа, узрос каэфіцыент смяротнасці сярод „раялістаў". І не ідзе тут пра прыхільнікаў караля.

**А. МАКСІМЮК**

# ЗАРЭЗАЦЬ ІМПРЭЗУ

Хто не ведае як гэта зрабіць, можа папрасіць рэцэпт у арганізатараў сёлетняга агляду „Беларуская песня для школьнікаў".

11 мая ў Бельскім доме культуры сабраліся вучні пачатковых школ ад Сямяціч па Гарадок. Настрой быў вельмі добры, выканаўцы — пасля рэпетыцыяў, абслуга дастройвала мікрафоны і падключала апошнія правады, публіка (таксама вучнёўская) не змяшчалася ў абшырнай зале. І хаця большасць маладых артыстаў магла захапіць нават самага пераборлівага гледача, той, хто датрываў да канца пяцігадзіннага канцэрту, пакідаў БДК з непрыемным асадкам на душы, а то і проста з пачуццём злосці на арганізатараў. **Яны ж забылі дзеля каго і з чым удзелам быў гэты агляд!**

Такія дробныя хібы як нудная, казённая прамова старшыні ГП БГКТ (рыхтык, як на фестывалі для дарослых) ці 15-хвіліннае спазненне можна адпусціць. Кожнаму здараецца. Куды горш, што **вядучыя імпрэзу ліцэісткі ад Тарашкевіча сказа па-беларуску беспамылкова злажыць не маглі.** Але і гэта можна даравваць, ведаючы месца беларускай мовы ў тых жа беларускіх ліцэях. Да таго ж, на такія імпрэзы звычайна высылаюцца лепшыя вучаніцы, прычым зусім не важнае, што ў іх добрыя ацэнкі па біялогіі ці па матэматыцы.

**Але ўжо тое, што арганізатары не правялі ніякага адбору ні рэпертуару, ні выканаўцаў, — гэта недапушчальны грэх.** Удзельнікаў было проста замнога. Ад гадзіны 11 да 16 цяжка было б выседзець нават даросламу чалавеку, а што ўжо і казаць пра дзяцей. Да таго яшчэ **такі пачатак!**

На сцэну з дзецьмі з нараўскага „Пронару" выйшаў Ежы Томзік і заняў тую ж сцэну... на паўтары гадзіны. Божа мой, што тады рабілася ў зале! Дзіцячая публіка пасля першых спантанных воплескаў і спробаў падключыцца да супольнай забавы пачала астываць, засынаць. Прадбачлівыя павыцягвалі чыпсы ды лізакі, а дзве дзяўчынкі ззаду спрабавалі нават гуляць у гуму. Затое пачалі ажываць настаўнікі. Спачатку чырванелі, потым напераменн то бялелі, то зелянелі, выходзілі на папяроску, якую прыкурвалі дрыжачымі рукамі. Пахла лінчам.

Па-першае, дзеткі з „Пронару" спявалі слаба. Па-другое, калі чуеш, як пяцікласнік спявае пра дзяцінства, якое „акунулася ў сівым тумане", а трэцякласніца пра „даўно забытую любоў", то ўжо хапае, каб пачало цябе трэсці. Але, калі чуеш на аглядзе беларускай песні расейшчыну, то і сам не ведаеш, што думаць. Словы некаторых песень хтосьці ў апошні момант, наспех спрабаваў перакладаць, ад чаго паявілася толькі кастрыбаватая трасянка. Іншыя — поўнасцю па-руску! Дзеці, ні ў зуб не разумеючы, пра што спяваюць, у нясных месцах мармыталі нешта пад нос або бязлітасна перакручвалі словы.

Абураныя настаўнікі гурмай кінуліся на Валянціку Ласкевіч, але яна адказвала толькі цёплай, нявіннай усмешкай. Іншы арганізатар, Анна Бжазоўская, на маё пытанне, хто дазволіў гэтаму тыпу здзеквацца публічна і над беднымі дзеткамі, і над беларускай мовай, толькі паціскала плячыма, маўляў, а што мы можам.

Я разумею, хто дае грошы, той дыктуе свае варункі. Але ўсяму ёсць свая цана. **Ці сапраўды нараўскі „Пронар" аж так багата падсыпае Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству, што яно пагаджаецца ажно на такога Томзіка на сваіх мерапрыемствах?** Ёсць жа, апрача ўсяго іншага, пашана для самога сябе, узровень, ніжэй якога апусціцца нельга. Але, відаць, у кожнага тут свае меркі.

Калі нарэшце, папсаваўшы ўшчэнт цудоўную першапачатковую атмасферу, каманда „Пронару" пакінула сцэну, спадарыня Валя супакойвала настаўнікаў: „Давайце не будзем сварыцца, хадземце лепш палюбуемся".

Сапраўды, далей было чым любавацца, аб гэтым будзе крыху пазней. У „Зорцы", дзеткам. А дарослым яшчэ крыху горычы.

Чаму, напрыклад, арганізатары напачатак выпусцілі спевакоў з Бельска, а першакласнікі з Орлі ці дзеткі з прадшкольнага аддзела з Ласінкі чакалі амаль да самога канца? Можа падумалі сабе, што тым другім і так далёка дадому, пакуль дабяруцца ў свае вёскі, то і так будуць змучаны, чаго іх затым шкадаваць. Затое мясцовыя могуць хутчэй пабегчы на абед.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

P.S. Я разумею, што гэты артыкул не заахвоціць шаноўных дзеячоў БГКТ і на будучыню паведамляць „Ніве" пра свае мерапрыемствы. Але і так не інфармуюць, і так... А аб'ектыўнасця журналіста заўсёды могуць вытлумачыць тым, што не прасілі яго сюды і таму так злосна напісаў.

# АДКУЛЬ ГЭТА БЯРЭЦЦА?

У семідзесятых гадах купіў я дзве дзялянкі зямлі пад забудову. Пасля нейкага часу атрымаў акт уласнасці на агульную плошчу 0,26 га.

У васьмідзесятых гадах у плацёжным ордэры агульная плошча маёй сядзібы „разраслася" на дзве соткі і дасягнула 0,28 га. Хто іх дапісаў і на аснове якога дакумента, дагэтуль мне не вядома.

У Гміннай управе ў Чаромсе кампетэнтная працаўніца сказала, што змяненні былі зроблены на аснове рэестраў, якія захоўваюцца ў Гайнаўцы. Я, аднак, з Раённага бюро геадэзіі ніякага дакумента не атрымаў. Хачу адзначыць, што ў сапраўднасці мая сядзіба не павялічылася ні на метр.

У лютым г.г. з Ваяводскага праўлення гэадэзіі прыехала працаўніца, якая вяла перапіску грунтаў у нашай вёсцы. На жаль, я не меў магчымасці праверыць сваю дзялянку. У красавіку г.г. я атрымаў рашэнне, у якім гаворыцца аб павелічэнні маёй сядзібы да 0,28900 кв. метраў. Значыцца, ізноў мне прыпісваюць амаль сотку. Адкуль гэта ўсё бярэцца? Хто адкажа на маё пытанне?

**У. СІДАРУК**

Балканскі кацёл кіпіць, але паводле спецыялістаў тое, што адбываецца ў Босніі, гэта толькі пусканне пары. Калі кацёл мае выбухнуць, станецца гэта калі не ў Косаве, дык у Македоніі.

Усё-такі сёння хачу заняцца не геапалітыкай і геастратэгіяй, але гісторыяй, ці, больш дакладна, гэтак званымі гістарычнымі правамі. Сапраўды, *гістарычныя правы* намнога важнейшыя за гісторыю, бо самая гісторыя як такая нікому і нічому не служыць. Праўда, некаторыя лічаць, што *Historia est magistra vitae*, але гэта байкі. Палітыкі, вырашаючы лёсы народаў, не помняць, што гаварылі год раней, дык дарма чакаць, што ў сваёй дзейнасці будуць кіравацца веданнем гісторыі, якая ёсць памяццю.

Іншая справа з *гістарычнымі правамі*. Тут нішто не забыта, а калі і прызабыта, дык напэўна нехта калісь успомніць. Ёсць, напрыклад, палякі, якія помняць не толькі Вільню на Крэсах, але і Табага на Карыбскім моры. Нават некаторым беларусам раптоўна вярнулася памяць і пачалі трызніць аб беларускай імперыі *ад мора да мора*. Пачуўшы падобнае, успамінаю заўжды аднаго ўкраінца з-пад майго роднага Эльбланга, што непадалёк ад Балтыйскага мора. Гэты Грыць, ахвяра акцыі „Вісла", падхмяліўшыся, уздымаў кліч: *Хай жывэ Україна од моря до моря!* Мой бацька спытаўся калісь збянтэжаны: *Добра, Грыцю, Чорнае мора ваша, а другое?* — *Балтыйскае*, — адказаў спакойна Грыць. — *Як нас сюды прывэзлы, то і нэ одступым.*

Тым не менш, польская, беларуская ці ўкраінская памяці зусім кароткія ў параўнанні з грэцкай. Падумаць — два з паловай тысячагоддзі. Ёсць што ўспамінаць, тым больш, што сённяшняя Грэцыя — краіна невялікая і небагатая.

І вось на табе: ні адтуль, ні адсюль з'явілася нейкая Македонія і прэтэндуе на былую імперскую веліч. Ды якім правам? Сённяшнія нібыта македонцы гэта славяне, падчас як антычныя былі...

Вядома, што далей скажа грэк, але мы ж не грэкі, хаця і грэцкай веры. Праўду кажучы, пра этнічную прыналежнасць антычных македонцаў ведаем няшмат. Мелі яны нейкую сваю мову, якая даўно забылася, у пісьмовасці карысталіся больш вытанчанай грэцкай і наогул былі пад вялікім уплывам грэцкай культуры. Верагодна, дынастыя, якая выдала творцаў македонскай магутнасці, Філіп і яго сын Аляксандр, была грэцкага паходжання, а прынамсі ў тое верыла, паколькі македонскія ўладары вялі свой род ад Геракла.

Усё-такі, праблема, ці македонцы былі грэкамі мала істотная, бо як македонцы, так і антычныя грэкі-эліны даўно прапалі. Захлынула іх славянская хваля, якая заліла Балканскі паўвостраў у VI—VII стагоддзях. І так, у Македоніі, у навакольлі Фесалонік, пасяліліся драгавічы, якія назвалі гэты горад па-свойму Салунем. То на іхнюю мову пераклалі Святое Пісанне святыя Кірыла і Мяфодзій. Далей занясло крывічоў. Апынуліся яны на Пелапанескім паўвостраве. Паколькі якраз у Македоніі. Пасля расці пачала Сербія, якая заняла і Македонію. З гэтай пары жыхароў гэтай краіны называлі часта ў свеце сербамі. Мала хто ў нас ведае, што славуты мастак Нектарый, які размаляваў Благавешчанскую царкву ў Супраслі, хаця зваўся Сербам, у сапраўднасці быў македонцам.

Наканец прыйшлі туркі і ўсё заглохла на некалькі стагоддзяў. Вызваляцца ад іх народы Балкан пачалі толькі ў XIX ст. У другой палове гэтага стагоддзя выглядала спярша, што ўваскрэсне Вялікая Балгарыя ад мора да мора, вядома — з Македоніяй. Магчыма, не ўзнікла б тады македонскае пытанне, бо македонцы сапраўды гавораць на такой самай мове, як і балгары. Усё-такі, Вялікая Балгарыя, ды яшчэ ў саюзе з Расіяй, была б ужо надта вялікая. Змовіліся супраць яе ўсе ворагі і варажэнькі ды Вялікая Балгарыя трэснула чарговы раз.

# ГЭТАК ЗВАНЫЯ МАКЕДОНЦЫ І ГЭТАК ЗВАНЫЯ ГРЭКІ

ўсюды навокал бачылі там мора, назвалі сваю новую бацькаўшчыну Марэяй.

Славяне доўга стваралі смяротную пагрозу ўсходнерымскай імперыі — Візантыі. Адваёўваючы страчаныя землі, візантыйскія імператары перасялялі ў іх насельніцтва з азіяцкіх глыбінь сваёй дзяржавы. У часы армянскай дынастыі Грэцыя была населена натоўпам каланістаў з Арменіі і Малой Азіі. Мовай міжнацыянальных зносін была ў той імперыі грэцкая мова і ўсе новыя пасяленцы на ёй гаварылі. Такім чынам Грэцыя набыла нанава *грэцкі* характар. Найдаўжэй утрымаліся славяне, вядомыя пад назвай *майнотаў*, у згаданай Марэі, пакуль у XIX ст. іхняй самабытнай культуры не спляжыла грэцкая школа і царква.

У Македоніі візантыйцы трымаліся толькі ў партовых гарадах, такіх як Салунь — Салонікі. Краіна належала балгарскаму царству, створанаму качавым цюркскім племем, якое неўзабаве растварылася сярод славян, пакідаючы ім сваё імя. Балгарыя то падала, то падымалася. Другое балгарскае царства ўзнікла

Такім чынам македонскія славяне мусілі далей змагацца за свабоду супроць туркаў. Паколькі змагаліся самастойна, дык і думаць пачалі па-самастойніцку. Пад канец XIX ст. узнікла першая македонская партыя (таксама, як першая беларуская партыя, у назве мела рэвалюцыю).

У 1903 г., у дзень св. Ільі Прарока выбухнула ў Македоніі паўстанне, якое туркі залілі крывёю. Усё-такі, Ільін дзень абазначаў нарадзіны новай нацыі.

Нарэшце праз дзесяць гадоў паганых туркаў разграмілі браты-хрысціяне, якія зараз жа кінуліся сабе да горла. Скончылася ўсё гэта дзяльбой... Македоніі. З гэтай пары македонцы сталі паўднёвымі сербамі і паўночнымі грэкамі, а частка яшчэ і балгарамі.

Македонцам пашанцавала толькі ў цітаўскай Югаславіі. Маршал, праводзячы палітыку нацыянальнай раўнавагі, стварыў некалькі рэспублік, у тым ліку і македонскую. Балгарыя спачатку таксама прызнала існаванне гэтай нацыі і арганізавала македонскае школьніцтва для сваіх македонцаў. Дарэчы, балгарскі правадыр Дзімітраў быў, здаецца, менавіта македонцам. Усё-такі, калі маршал Ціта пасварыўся з генералісімусам Сталінам, Дзімітраў узяў бок гэтага апошняга, а пры нагодзе пакончыў са сваімі македонцамі.

У грэцкай частцы Македоніі славянскія македонцы ніякіх правоў ніколі не мелі. Нават гаварыць па-свойму ім забаранялася. У дваццатыя гады грэкі метадычна насялялі Македонію сваімі пабрацімамі, якіх туркі якраз выкідалі з Малой Азіі.

Адславяншчванне Македоніі ішло хуткімі тэмпамі. Той, хто не скарыўся, клаў галаву або прымушаны быў уцякаць. Такім чынам узнікла, напрыклад, македонская калонія ў Аўстраліі, ды няма дзіва, што цяпер дайшло там да адкрытага змагання між македонскімі і грэцкімі імігрантамі.

І так, толькі ў XX стагоддзі, у паўднёвай Македоніі завяршаецца працэс, пачаты ў часах Візантыі. Як калісь Грэцыя, так цяпер Македонія, населеная малаазіяцкімі каланістамі, набыла *грэцкі* характар.

Цяпер сотні тысяч грэкаў збіраюцца на мітынгах і пратэстуюць супраць засваення славянамі назвы Македоніі ці зоркі караля Філіпа як нацыянальнага сімвала. У Грэцыі людзі трапляюць у турму за самую заяву, што яны македонцы. Грэцыя прабуе задушыць Македонію эканамічна, не прапускаючы тавараў праз Салонікі, якія з'яўляюцца практычна адзіным выхадам Македоніі ў свет. *Македонія была і ёсць грэцкая.*

Сапраўды, гэтыя словы — пустыя. Сённяшнія грэкі маюць з антычнымі элінамі дакладна столькі супольнага, што цяперашнія македонцы з антычнымі македонцамі. Напэўна займелі назву, і пэўна і кроплю крыві, што ў навуцы называецца субстратам.

Усё-такі, істэрыя грэкаў зразумелая. Паколькі існуюць г.зв. *гістарычныя правы*, ніхто не можа спаць спакойна, ні ў Солуні, ні на Табага.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# І Сустрэча беларускай моладзі свету У ВЫЗНАЧАЛЬНЫ ЧАС

Рыхтавалася І Сустрэча беларускай моладзі свету. На спатканні маладзёжных арганізацый Рэспублікі Беларусь з прадстаўнікамі ўрадавых колаў першая асоба РБ Мечыслаў Грыб сказаў, што калі гэтая сустрэча пойдзе ў такім напрамку, як І З'езд беларусаў свету („пад эгідай апазіцыі"), то лепей яе ўвогуле не праводзіць. І ў такім выпадку за такі з'езд няхай плаціць апазіцыя! І так легальныя, зарэгістраваныя арганізацыі практычна не атрымалі на свой рабочы з'езд фінансавай дапамогі.

Арганізатарамі сустрэчы выступілі некалькі беларускіх маладзёжных суполак — Аб'яднанне беларарускіх скаўтаў, Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Саюз беларускай каталіцкай моладзі, Аб'яднанне студэнтаў „Беласточчына", маладзёжная філія Беларускага народнага фронту. У Менск прыехалі прадстаўнікі 20 маладзёжных арганізацый з краін СНД, Балтыі і Польшчы, што з моладдзю Беларусі склала каля двухсот дэлегатаў і гасцей.

Не паспрыялі дзяржаўныя структуры гэтай несумненна важнай ідэі. Для нармальнага правядзення сустрэчы арганізатарам трэба было каля 30 мільёнаў рублёў. Камітэт Саўміна па справах моладзі даў 2 мільёны, Міністэрства адукацыі бясплатна размясціла ўдзельнікаў у інтэрнатах. Старшыня камітэта Міхал Падгайны сказаў, што ЗБС само вінавата ў тым, што несвоечасова звярнулася з просьбай аб дапамозе, і гэтае мерапрыемства не было занесена ў праграму „Беларусы свету", пад якую запланавана выдаткі. Старшыня ЗБС Аляксей Глушко расказаў пра намаганні, якія арганізатары рабілі ў пошуках патрэбных грошай. Накіравалі м. інш. ліст у Міністэрства фінансаў, але не атрымалі нават адтуль пісьмовага адказу — аб адмове паінфармавалі іх тэлефанічна. Усё сведчыць аб тым, што дзяржава практычна праігнаравала сустрэчу моладзі, а ўрадавая „Народная газета" нават не намякнула пра падзею. Відаць, чыноўнікі баяліся, што сустрэча набудзе палітычнае гучанне. Папярэдне такога намеру не было ў арганізатараў. Мелі працаваць секцыі: культура і адукацыя, турызм і краязнаўства, маладзёжнае прадпрымальніцтва. Па прапанове ўдзельніцы з'езда з Вільні ў парадак дня ўключылі і палітычнае пытанне. Ганна Сурмач, старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" звярнула ў прывітальным слове ўвагу на тое, што моладзь сабралася тут у такі момант, калі айчына ў патрэбе, і ёсць яна прадаўжэннем пакаленняў-барацьбітоў за адраджэнне Беларусі.

На распачацці абрадаў выступіла Надзея Дземідовіч, сябра Саюза беларускай моладзі (Выканаўчы камітэт, які ўзнік на сустрэчы, звернецца потым у Міністэрства юстыцыі РБ з патрабаваннем рэабілітацыі СБМ), якая за сваю дзейнасць на ніве беларускага адраджэння была асуджана на 25 гадоў сталінскіх лагероў.

— Гэта хвалюючы і памятны дзень таму, што мы можам свабодна спаткацца на сваёй бацькаўшчыне і шчыра пагаварыць аб цяжкім мінулым, не зусім зразумелым цяперашнім і будзем спадзявацца на светлае будучае, — сказала яна. І прагучалі словы з яе верша: „Мова з намі, Край наш жыве!".

Хаця не было выдзелена ў адзельную секцыю, палітычнае пытанне кранaлася на сустрэчы, асабліва на пленарным пасяджэнні і ў культурна-адукацыйнай групе, дзе вельмі моцна зазначылася ў размовах справа практычнай рэалізацыі закону аб мовах, асабліва ў вышэйшых навуковых установах. На культурна-асветнай секцыі кранaлася тэма цэнтра беларускай культуры на Беласточчыне, умоў дастаўкі і распаўсюджвання „Нівы" і фінансавай дапамогі нашай рэдакцыі, падтрымкі беларусаў замежжа ў падрыхтоўцы навуковых кадраў па розных спецыяльнасцях, семінараў для маладых настаўнікаў. Якраз і гэтыя пытанні закраналіся падчас сустрэчы „круглага стала" з прадстаўнікамі ўрада — старшынёй камітэта па справах моладзі М. Падгайным, віцэ-міністрам культуры і друку Генадзем Бураўкіным і іншымі прадстаўнікамі гэтага міністэрства і міністэрства адукацыі. Да міністра культуры звярнуліся маладыя прадпрымальнікі ў справе выдавання перакладной навуковай эканамічнай літаратуры, каб запоўніць інфармацыйны вакуум. З-за недахопу грошай, сказаў міністр, гэта было б магчыма толькі пры дапамозе самых прадпрымальнікаў. Г. Бураўкін не быў зарыентаваны ў справе „Нівы", але абяцаў перадаць прапановы і просьбы свайму новаму шэфу, вядомаму нам былому міністру інфармацыі Анатолю Бутэвічу. „Не маю права абяцаць дапамогі і не маю такое ўлады" — шчыра прызнаўся віцэ-міністр.

Адно з пытанняў да прадстаўніка Міністэрства адукацыі было вельмі важнае для беластоцкай моладзі і датычыла яно адбору студэнтаў з Польшчы ў ВНУ ў Беларусі. Сп. Пяцігор сцвердзіў, што вучыцца ў Беларусі можа кожны жадаючы. Вельмі здзівіўся, што ў нас, апрача БГКТ, дзейнічаюць іншыя арганізацыі, сярод якіх ёсць Звяз беларускай моладзі, які мог бы мець уплыў на тое, каб вучыцца ў Беларусі маглі свядомыя, адказныя маладыя беларусы Беласточчыны. У гэтай справе дапамагла нам сп. Г. Сурмач, якая пасля размовы з кампетэнтнымі асобамі паінфармавала, што можна будзе прапанаваць кандыдатаў у ВНУ Беларусі і цераз Беларускі саюз у Польшчы. Паколькі ў гэтым годзе камісія Міністэрства адукацыі закончыла ўжо сваю працу па адборы студэнтаў (31 асоба), можна будзе, аднак, далучыць спісак з БС, з лістам і прапановай супрацоўнічаць у гэтым напрамку і ў наступныя гады.

Калі моладзь пачала на „круглым стале" задаваць палітычныя пытанні, якія вымагалі ад прадстаўнікоў улады выказацца, ці моладзь не павінна рашаць палітычныя справы, М. Падгайны сказаў: „Калі на вашых такога тыпу спатканнях будзе палітыка, то прадстаўнікі дзяржавы не будуць прымаць удзел у такіх пасяджэннях". Ці гэта значыць, што сённяшні ўрад пакідае сваёй моладзі, „будучыні краіны", займацца толькі скаўцкім гарцаваннем, краязнаўствам ды фальклорным гуканнем? „Дзяржава можа нас падтрымоўваць альбо не, — сказаў шэф скаўтаў, член Выканаўчага камітэта Кастусь Хадыка, — але мы ёсць зарэгістраванай, легальнай праўнай адзінкай, і маем права выступаць з палітычнымі заявамі і крытыкай, бо нам на гэта дазваляе наш статут!"

На сустрэчы была выбраная рабочая група задзіночання, Выканаўчы камітэт, якога заданнем будзе стварэнне агульнай інфармацыйнай платформы, каардынаванне дзеянняў беларускіх маладзёжных суполак у свеце і арганізацыя рэалізацыі мэтаў і заданняў закладзеных у выніковых дакументах з'езду, падрыхтоўка наступнай сустрэчы (магчыма што ў іншай форме і з іншым кантынгентам удзельнікаў). Моладзь прадставіла адозвы да грамадскасці і моладзі Беларусі; наступіла гэта пасля бурнага выяснення ўсіх супярэчнасцяў, паколькі грамадзяне іншых дзяржаў павінны дыпламатычна

☞ *Працяг на стар. 10*

 

# МАТУРА Ў ГАЙНАЎЦЫ

Вучні беларускіх ліцэяў у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім матуральныя экзамены пішуць адзін дзень даўжэй, чым іхнія аднагодкі ў іншых сярэдніх школах. Пасля экзаменаў па польскай мове і выбраным прадмеце, прыступаюць яны да апошняга свайго пісьмовага выпрабавання — беларускай мовы. У гэтым годзе ў гайнаўскім беларускім ліцэі да матуры прыступілі 67 чалавек — у іх ліку дзве асобы з мінулага года.

12 мая г.г., некалькі хвілін перад восьмай гадзінай, перад гімнастычнай залай, супольнай для ліцэя і пачатковай школы н-р 5, сабралася ладная грамадка моладзі. Дырэктар школы Яўген Сачко вычытваў матурыстаў — момант самы важны, бо вырашаў, хто якое месца зойме на зале. Матурысты адзін за адным знікалі ў змрочным прахоне ўвахода. Знік апошні і... матура пачалася.

Пасля нейкай паўгадзіны дырэктар паяўляецца ізноў. Дапытваюся пра тэмы. Калі не будуць яны апублікаваны да першай гадзіны — кажа, — дык вось яны. Усё ў парадку, публікацыя з'явіцца толькі праз два тыдні. У гэтым годзе матурысты ў Гайнаўскім беларускім ліцэі пісалі на наступныя тэмы:

*1. У якой ступені беларуская літаратура і прэса дапамаглі табе ў пазнанні гісторыі Беласточчыны?*

*2. Чаму пачатак XX стагоддзя называем новым перыядам у беларускай літаратуры?*

*3. Што для цябе значыць слова „шчасце"?*

Дырэктар яшчэ раз разглядае ліст з куратарыі і пачынае круціць носам. Не надта добра падабраныя гэтыя тэмы — кажа. — Наогул павінна быць так, што дзве тэмы сцісла звязаныя з праграмай навучання, а адна свабодная. Тут тая прапорцыя не захаваная. Дзве тэмы — свабодныя, а толькі адна згодна з праграмай навучання беларускай мовы ў ліцэі. Трэба добра ведаць тую ж мову, каб пісаць такія філасофскія роздумы.

Яшчэ да размовы з дырэктарам гайнаўскага ліцэя адна з матак, што суправаджала на матуру сваю „пацеху", звярнула маю ўвагу на дзве вучаніцы, якія „ўжо сваю матуру з беларускай мовы напісалі на шасцёркі". Вучаніцамі гэтымі з'яўляюцца Анна Аўласюк і Эва Ляўчук, абедзве з Новага Беразова.

Анна Аўласюк і Эва Ляўчук у сакавіку 1993 года прынялі ўдзел у алімпіядзе беларускай мовы ў Гомелі ў Беларусі ды з увагі на гэта былі сваёй школай звольнены з пісьмовага экзамену. Анна Аўласюк узяла на алімпіядзе III месца, а Эва Ляўчук — трынаццатае, на агульную колькасць каля 30 удзельнікаў алімпіяды. На матуру зайшлі з цікавасці да экзаменацыйных тэм, а таксама дзеля салідарнасці з сябрамі.

— Адчуваем пэўную палёгку, што напісалі ўжо экзаменацыйную працу па польскай мове, — кажуць, — але канчатковага задавальнення, вядома, яшчэ няма.

У другі дзень матураў Анна пісала матэматыку, а Эва — біялогію. Дапытваюся яшчэ ў іх пра алімпіяду ў Гомелі.

— Па-беларуску там стараліся паслядоўна гаварыць толькі мы, — кажа Анна. — Іншыя гаварылі між сабою выключна па-руску. Зразумела, ніхто там нас як беларусаў не ўспрымаў — палякі, казалі пра нас.

— Беларуская мова для „іх", — дадае Эва, — нешта вывучанае, як нямецкая. „Яны" нават выказваліся на экзаменах неяк так штучна і, на маю думку, моцна ідэалагічна. Мы да ўсяе справы падышлі больш спантанна, што, дарэчы, і спадабалася нашым экзаменатарам на алімпіядзе.

— Усе ўдзельнікі алімпіяды, — кажа Анна, — удзельнічалі ў летніку над Нарачччу. Гэта была ўзнагарода. Заехалі мы на гэты летнік, здавалася б, усе дарослыя людзі, па 17 і 18 гадоў, а апекуны з намі — як з дзеткамі. Пачалося ад павучання, чаго нельга. За пабітую шыбу ці скок з другога паверха — выключэнне з летніка з паведамленнем школы і бацькоў. А нас, як „палякаў", з Захаду, правучылі, каб звярнуць адразу наркотыкі.

— Было прыгожае надвор'е, — дадае Эва, — а мы сядзелі, размалёўвалі нейкія транспаранты ды ажыццяўлялі праграмы і планы. Палюбавацца адпачынкам дазволілі нам толькі тады, калі пайшоў дождж.

Хаця ўражанні дзяўчат ад пабыўкі ў Беларусі далёкія ад *цудоўнейшых*, то абедзве яны намервающа паступіць у вышэйшыя вучэльні ў Беларусі менавіта — Анна на англістыку, а Эва на медыцыну.

Будынак старога ліцэя ў Гайнаўцы ўжо разбураны. Праходзім з дырэктарам Я. Сачко па гэтым месцы. Ідзем цяпер, — кажа ён, — па гістарычным кабінеце, цяпер уваходзім у хімічную залу, калідор і кабінет дырэктара. Нядаўна ездзіў тут цяжкі трактар ды не змог пазрываць падлогу. Салідна калісьці будавалі — не дзіва, што школа прастаяла столькі гадоў ды столькі моладзі праз яе прайшла. У гэтым месцы стане спартыўная зала — намерваемся здаць яе ва ўжытак у верасні 1995 года.

Гайнаўская матура ў статыстыцы выглядае прыблізна так: 26 асоб другога дня выбрала на пісьменны экзамен біялогію, 21 — матэматыку, 17 — гісторыю, 2 — рускую мову, 1 — нямецкую. У пераканацці настаўнікаў, — кажа Я. Сачко, — матура ў гэтым годзе крышку лягчэйшая. Не датычыць гэта экзаменаў па мовах. Яны былі на ўзроўні першага або другога курса вышэйшай вучэльні. Характэрнае таксама тое, што моладзь выкарыстоўвае час да канца, ніхто ўжо не выходзіць а 11 ці 12 гадзіне. Варта таксама згадаць і той факт, што з 21 чалавека, якія пісалі матэматыку, 11 наважыліся рашыць „задачу з зорачкай", на шасцёрку.

— Ад трох гадоў, — кажа дырэктар, — у школе нашай моладзь у II семестры чацвёртага класа ходзіць на выбраныя прадметы. Кожны з чацвёртых класаў, прыкладна, мае 3 гадзіны гісторыі ў тыдзень. У II семестры з ліку асоб ва ўсіх чацвёртых класах, якія будуць здаваць экзамен па гісторыі, камплектуем адзін клас, які ўжо мае 9 гадзін у тыдзень. Думаем з настаўнікамі, ці сістэмы такой не ўвесці ад пачатку чацвёртага класа, бо практыка паказвае, што вучні добра падрыхтаваныя да матуры.

Гайнаўскі беларускі ліцэй мае ўжо 143 кандыдаты, якія хочуць паступіць у школу ў новым навучальным годзе. Ліміт месц у школе — 120. Адчыненых мае быць чатыры паралельныя аддзелы. Ёсць дылема, — кажа дырэктар, — ці выступіць у кураторыю за дазволам адкрыць 5 аддзелаў, ці застацца пры чатырох, але мацнейшых, бо прасеяных на ўступных экзаменах. Асабіста я за тым, каб спрабаваць адчыніць 5 паралельных першых класаў ды даць магчымасць паступіць у школу ўсім, якія паспяхова вытрымаюць уступныя экзамены.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# ... І Ў БЕЛЬСКУ

Ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча сёлета адзначае сваё 50-годдзе. Але колькі было выпускаў матурыстаў, дакладна не можа вызначыць нават дырэктар Зінаіда Навіцкая. „Не захаваліся ніякія дакументы пра першы год навучання, — кажа яна, — таму не ведаю, ці ў 1945 годзе хто-небудзь прыступаў да экзамену на атэстат сталасці. У 1946 годзе школу закончылі 12 чалавек з „вялікай" матурай і 80 з „малой". А потым, на працягу трох гадоў, школа не існавала. Першая матура пасля перапынку была ажно ў 1952 годзе і з таго часу адбываецца ўжо кожны год. З 1968 года ліцэй пачаў набіраць тры аддзелы, толькі зрэдку здараліся два, але былі гады, калі вучняў хапала і на чатыры паралельныя класы. Цяпер у нас таксама чатыры першыя класы ды і ў наступным годзе думаем паўтарыць такое".

Да матуры ў Бельску прыступілі ўсе чацвёртакласнікі — 88 асоб. Пасля абавязковага экзамену па польскай мове 39 асоб выбралі матэматыку, 30 — гісторыю, 16 — біялогію, 2 — англійскую мову і адна асоба — рускую. З экзаменаў па беларускай мове былі звольнены 7 асоб — удзельнікі прадметнай алімпіяды ў Магілёве. Яны аўтаматычна атрымалі шасцёркі. Іншым давялося папацець у чацвер 12 мая.

„Я вышэй ацэньваў працы на свабодныя тэмы, — кажа настаўнік беларускай мовы Андрэй Сцепанюк. — Другая тэма аказалася чыста школьнай і наогул вучні пісалі ўсё, што ведаюць пра пачатак стагоддзя, пра „Нашу ніву", пра нацыянальнае адраджэнне. Гэтую тэму і выбрала найбольш вучняў. Калі гаварыць пра першую, дык зразумела — „Ніва", „Часопіс", творы літаратурнай групы „Белавежа", былі таксама спасылкі на Беластоцкае радыё. Найцікавейшыя, найбольш самастойныя працы атрымаліся на трэцюю тэму. Уявіце сабе разважанні пра шчасце ў такіх творах як „Пяць лыжак заціркі" Бядулі ці „Размовы з катам" Мачарскага. Аўтары гэтых прац паказалі сябе не толькі добра зарыентаванымі ў літаратуры, як беларускай, так і сусветнай, але і інтэлігентнымі людзьмі, з арыгінальнымі думкамі, сваімі поглядамі на свет".

Пасля пісьмовых экзаменаў — вусныя, практычна да канца мая. А потым яшчэ месяц да экзаменаў у вышэйшыя школы. Усе сёлетнія выпускнікі Бельскага беларускага ліцэя хочуць вучыцца далей. Найбольшае зацікаўленне праяўляюць яны такімі напрамкамі як эканомія, права. Менш асоб выбірае медыцыну.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# ДАСЯГНЕННІ БЕЛАРУСКІХ ГІМНАСТАЎ

**29 красавіка г.г. вярнулася дамоў беларуская зборная каманда па спартыўнай гімнастыцы з чэмпіянату свету, які адбыўся ў Аўстраліі, у горадзе Брысбене. Трэнер зборнай і суддзя ў гэтай галіне спорту ФЕЛІКС КАРАСІК — жыхар Гродна, быў адным з суддзяў на гэтых спаборніцтвах. Карыстаючыся нагодай я папрасіў Фелікса Карасіка расказаць пра поспехі беларускіх спартсменаў.**

**Янка Жамойцін:** — *Фелікс Уладзіміравіч, колькі спартсменаў беларускай каманды ўдзельнічала ў спаборніцтвах у Брысбене?*

**Фелікс Карасік:** — Мы падрыхтавалі зборную з 12 асоб, г.зн. 6 хлапцоў і 6 дзяўчат, аднак жа з-за недахопу фінансавых сродкаў прыйшлося абмежавацца да шасці спартсменаў (3 + 3).

*— Як вы ацэньваеце дасягненні вашых падапечных?*

— Я думаю, што самым аб'ектыўным крытэрыем ацэнкі з'яўляюцца дасягненні нашай моладзі, за якія суддзі прысвоілі ім адпаведныя ўзнагароды (па-нашаму: спартыўныя трафеі). Дзеля якасці хачу заўважыць, што спаборніцтва адбывалася ў двух катэгорыях. Адна частка гэта комплекс 6 відаў гімнастычных прыёмаў. У гэтых адносінах наш юнак Іван Іванкоў быў непераможным, а нават выклікаў сенсацыю так сярод суддзяў, як і ў публікі. У выніку прызналі яго абсалютным чэмпіёнам свету. Віталь Шчэрба дасягнуў у гэтым відзе гімнастыкі трэцяе месца.

На другую частку спаборніцтваў складаліся аддзельныя гімнастычныя формы, якія называем „снарадамі". Тут усіх пераскочыў Віталь Шчэрба і здабыў 3 залатыя медалі. Івану Іванкову дастаўся толькі бронзавы медаль.

*— Цікава як вашыя дасягненні маюцца да іншых спартыўных калектываў?*

— Мы ў гэтым чэмпіянаце свету занялі першае месца, другую пазіцыю здабыла Румынія, трэцяе месца — ЗША, чацвёртае — Расея, пятае — Украіна.

*— Разумею, што ваш калектыў зрабіў добрую рэкламу мала яшчэ вядомай у свеце Рэспубліцы Беларусь.*

— Вы не памыляецеся. Для тубыльцаў і для многіх іншых удзельнікаў гэта было адкрыццё. Яны не мелі ніякага паняцця аб нашай рэспубліцы і не разумелі, чаму наш гімн, які гралі найчасцей, быў іншы, чым расейскі. Трэба было тлумачыць, што расейцы і беларусы — гэта два розныя славянскія народы і ў іх дзве розныя дзяржавы.

*— Ці з боку аўстралійцаў было зацікаўленне спартсменамі?*

— Намі зацікавілася адна аўстралійская беларуска, якая жыве ў Брысбене. Яна вазіла моладзь на экскурсіі на сваёй машыне і наладзіла ім прыём. Казала, што ў Брысбене няма больш беларусаў. Яны згуртаваныя ў Сіднеі, але ніхто з іх на чэмпіянат не прыехаў.

*— А як з іншымі камандамі?*

— Іншыя выклікалі ў тамтэйшых землякоў большае зацікаўленне. Напрыклад, украінская зборная была ўвесь час пад апекай вялікай, сарганізаванай групы эміграннтаў, таксама як і венгерская. Мы аднак вынеслі з таго сваю карысць, бо маглі лепш засярodзіцца на найважнейшым, што нас прывяло туды і ўтрымаць належны спартыўны рэжым.

*— Якія вы адчуваеце патрэбы ў вашай нялёгкай працы?*

— Працуем увесь час на прыстарэлых зношаных прыладах і, на жаль, ні сярод радзімых прадпрымальнікаў, ні сярод нашай эміграцыі не паявіўся дасюль мецэнат нашага спорту. Разумеючы цяжкую эканамічную сітуацыю дзяржавы, ад яе таксама не можам шмат дамагацца і тут заўважаем найбольшыя цяжкасці. Не можам у гэтых адносінах раўняцца, напрыклад, з украінцамі, якія атрымалі ад сваёй дыяспары з Канады самыя новыя сучасныя прылады. Былі, праўда, прапановы выкарыстаць нашых чэмпіёнаў у рэкламе чужых фірмаў, але гэта не супадае з нашай мэтай.

*— Якія вашыя найбліжэйшыя планы?*

— Кіраўніцтвы іншых зборных камандаў заўважылі ў нашай моладзі партнёра, ад якога можна сёе-тое пераняць і запрасілі нашых спартсменаў на спаборніцтвы ў ЗША (18 мая г.г.), дзе спаткаюцца гімнасты з ЗША, Кітая і Беларусі. Спадзяемся, што нашыя землякі-жыхары Амерыкі не празяваюць гэтай сустрэчы.

*— Зімняя алімпіяда паказала ўжо, што беларускі спорт не дрэмле, а вашая зборная па гімнастыцы дабілася самай высокай пазіцыі ў спартыўным свеце. Незалежна ад цяжкасцяў, з якімі прыходзіцца вам змагацца, жадаю поспехаў і дзякую за размову.*

Гутарыў
**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**



 

# Зорка
## Старонка для дзяцей

*ВІКТАР ШВЕД*

### ДЗІЦЯЧЫ ДЗЕНЬ

Расцвіла наўкол багата
Маляўнічая прырода.
Адзначаюць дзетак свята
Усе вольныя народы.

Дзеці — нашае багацце,
Дзеці — будучыня наша,
Дзеці — шчасце ў нашай хаце,
Дзеці — нашая украса.

Дык шануйма нашых дзетак —
Гонар наш і абавязак.
Заўтрашні дзень стрэнем гэтак,
Як дзяцей ўзгадуем разам.

Хай не будзе больш на свеце
Голаду, галечы, войнаў.
Хай растуць усюды дзеці
І шчаслівa, і спакойна.



*У Крыўцы на спатканні з „Зоркай".* Фота Міры Лукшы

<u>З вучнёўскае творчасці</u>

## ДОЎГІ НОС БАГАТАГА ЧАЛАВЕКА

**Казка**

Жыў сабе багаты чалавек. Усяго яму хапала, меў вялікую хату, многа грошай, многа зямлі і збожжа. Побач панскага двара жыў бедны чалавек, які зусім не меў грошай і такіх дастаткаў, як багацей. Аднойчы бядняк пайшоў да багацея і папрасіў у яго мяшок збожжа і сказаў, што калі збожжа дасць ураджай, то ён аднясе пазычаны мяшок. Багацей даў яму мяшок і сказаў:

— Як не аддасі, то так цябе паб'ю, што не ўстанеш!

— Добра, хай так будзе, — сказаў бядняк.

Чалавек зааpaў зямлю і пасеяў збожжа.

Прайшоў нейкі час і на полі вырас толькі адзін колас, але вельмі вялікі. Чалавек падумаў, што будзе ў яго збожжа, але прыляцела варона і сарвала колас. Бедны чалавек пабег за зладзейкай, але варона з коласам уцякла.

Наступіла ноч. Бядняк узлез на дрэва і заснуў. Апоўначы чалавек пачуў галасы. Глянуў уніз, а там вакол дрэва хадзілі воўк, заяц, каза, малпа і ліса. Гэтыя звяры тры разы акружылі дрэва і выкапалі з-пад зямлі гаршчок. І кожны звер на сваёй мове выказаў пажаданне, чаго б ён хацеў. Іх жаданні здзейсніліся. Потым звяры схавалі гаршчок і засыпалі яго зямлёй. Бядняк злез з дрэва, выкапаў посуд і панёс у сваю хату. Запытаў жонку:

— Што ты хочаш атрымаць?

— Збожжа на муку, — адказала жонка.

І пасыпаліся з гаршка зярняты. Шчаслівы чалавек пайшоў да багацея і занёс яму два мяшкі збожжа.

Бядняк расказаў пра ўсё багацею. Багаты чалавек таксама пасеяў збожжа і вырас з яго толькі адзін колас, і яго варона ўкрала. Багацей пабег за воронай. Варона адляцела. Багацей узлез на дрэва. Апоўначы прыйшлі звяры, пачалі адкопваць гаршчок, але яго там не было. Звяры пачулі, што хтосьці сядзіць на дрэве. Малпа ўзлезла на дрэва і схапіла пана за нос. Цягнула, цягнула і так выцягнула, што багацей панёс свой нос на руках і спіне. А бядняк не быў ужо бедным. Стаў жыць, пажываць і дабро нажываць.

**БАСЯ РОЛЯ**
**вучаніца VI класа**
**Пачатковай школы**
**ў Дубічах-Царкоўных**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### Мышка ў космасе

Аднойчы мышка Пік-Пік разам з Веранічкай і Максімкам глядзела ў тэлевізары імпартны мульцік пра сабачку Рэкса. Гэты Рэкс украў ракету і паляцеў на ёй у космас, дзе знайшоў планету сабак. „А, напэўна ж, недзе ёсць і планета мышак, — задумалася Пік-Пік. — Цікава, як яны там жывуць, што ядуць? Вось бы пакаштаваць!"

І Пік-Пік пабегла ў другі пакой да таты, каб даведацца, як зрабіць ракету. На жаль, тата сам меў пра гэта вельмі цьмянае ўяўленне, але не мог жа ён у гэтым прызнацца! І тата даходліва растлумачыў Пік-Пік, што ракета зробленая з трох ці чатырох частак. Наверсе сядзіць касманаўт, а ў ніжніх частках — паліва, якое можа выбухнуць. Падпальваюць змесціва ніжняй часткі, яно „бухае", і ад выбуху ракета ўзлятае. Тады падпальваюць другую частку, зноў выбух — і ракета вырываецца з зямной атмасферы і ляціць ужо ў космас...

— Дык гэта ж вельмі проста... — уцешылася мышка.

— Ты так лічыш? — збянтэжыўся тата і зноў схаваўся за газету. А мышка пабегла на кухню будаваць ракету. Там яна знайшла вялікія пустыя бляшанкі з-пад малочных сумесяў. Пік-Пік прывалакла тры бляшанкі на балкон і задумалася: дзе ж узяць паліва для выбуху? Бліскучая ідэя! Прынесла з кухні цэлую кучу каробачак з запалкамі і высыпала іх у дзве бляшанкі. Паставіла часткі ракеты адна на адну, зверху прыставіла трэцюю пустую і паклікала Веранічку. Веранічка згадзілася дапамагаць мышцы ў яе геніяльным плане і дапамагла „касманаўту" залезці ў верхнюю пустую бляшанку. Тады мышка пачала адлік:

— Дзесяць... дзевяць... восем... сем... шэсць... пяць... чатыры... тры... два... адзін... Запальвай!

Веранічка чыркнула запалкай і ўкінула яе ў ніжнюю бляшанку. Мышка лягла на дно сваёй „кабіны" і заплюшчыла вочы. Унізе нешта ўзрывалася, уздрыгвала,.

— Паляцела... — задаволена думала мышка. Тым часам Веранічка падпаліла запалкі ў другой бляшанцы і пачала чакаць, калі „ракета" сапраўды ўзляціць, як абяцала Пік-Пік. Але „паліва" дагарала, а бляшанкі заставаліся на месцы. Мышка таксама не адзывалася. Тут мама паклікала Веранічку есці, і дзяўчынка пабегла па сваіх справах і зусім забылася на „касмічны праект". А Пік-Пік тым часам, прыгрэўшыся, скрозь дрымоту адмячала: „Так, выйшлі за межы зямной атмасферы.... Ляцім у адкрытым космасе... Наступае перыяд бязважкасці..."

Выспаўшыся, Пік-Пік адплюшчыла вочы і адразу зразумела, што ракета прызямлілася... На якую ж планету? Пік-Пік скінула з бляшанкі накрыўку і высунулася вонкі: было цёмна, ззялі зоры і свяціліся чужыя вокны... „Зусім, як у нас", — падумала мышка і хацела вылезці, але пры гэтым „ракета" перакулілася, і яе часткі са страшэнным грукатам пакаціліся па балконе. Дзверы балкона прыадчыніліся, і паказалася сонная пыска коткі Пепіты:

— Што тут робіцца, што за грукат?

— Ай! — закрычала мышка. — У маіх разліках — памылка! Я трапіла не на планету мышак, а на планету кошак. Ратуйце!

І Пік-Пік рынулася ў прыадчыненыя дзверы, адпіхнуўшы здзіўленую Пепіту. Ножкі самі сабою прынеслі Пік-Пік у Веранічын пакойчык, пад шафу, у норку...

„Вось дзіва! — думала мышка. — І тут ёсць норка, падобная на маю, і тут, напэўна, жыве нейкая мышка... Пахне нечым смачным, хаця вельмі насмечана... Як можна жыць у такім брудзе? Фу! А ці ёсць тут прыпасы?"

І Пік-Пік палезла ў далёкі кут норкі і знайшла там і цукерачкі, і арэшкі, і кавалачкі пячэння... Не свае — не шкода! Іншапланецян трэба павaжаць! І Пік-Пік падчысціла ўсе прыпасы невядомай мышкі і заснула...

Пабудзіла мышку Веранічка — яна непакоілася за лёс „касманаўткі". А што адчула Пік-Пік, калі зразумела, што знішчыла свае ўласныя прыпасы, можна толькі ўявіць...

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

*МАР'ЯН ДУКСА*

### ПАГОДЛІВЫ ДЗЕНЬ

Ніводнай хмурынкі,
Аж ззяюць нябёсы.
Нам добра ля рэчкі,
распранутым, босым.
Мільёны праменняў
ліюцца згары
даверліва,
хоць ты рукамі бяры.
Відаць,
самалёту ўзнімацца вышэй
не хочацца —
вось апусціцца б ніжэй,
дзе травы,
дзе кветкі,
дзе луг-сенажаць,
дзе дзеці
на беразе самым ляжаць.
Пілот не апусціцца зверху
таму,
што хопіць праменняў
і ў небе яму.
А ветрык
прыемна казыча шчаку.
На мост пазіраем,
што лёг праз раку.
А людзі
такія вясёлыя там,
шафёры — усе! —
усміхаюцца нам.
Бярыце
усмешкі, каму не стае —
усмешкі
пагодлівы дзень раздае!

### ПАДЛЕСАК

Займае ўвесь узлесак
вясёленькі падлесак.
Направа і налева
растуць кусты і дрэвы.
І лозкі і бярозкі
сябруюць тут па-свойску.
Сябруюць, малайчыны,
ляшчэўнік і крушына.
Ніколі ні хвілінкі
не сварацца асінкі.
Алешынка і ў вецер
не б'е нікога вецем.
Маленькая сасонка
для ўсіх спявае звонка.
Ніхто нікога
не чапае,
і сонца ўсім хапае.

### ПРАЦАВІТАЕ СОНЦА

Усталі мы рана —
зямля яшчэ стыла.
Над нашай палянаю
сонца свяціла.
Навокал прамення
даўно рассыпала
і нас, як адзеннем,
яно саграваіа.
Мы хутка мінулі
сцяжынкі лясныя
і смела нырнулі
ў закуткі грыбныя.
Калі ж мы прымлелі
і сіл не хапіла,
на пень мы прыселі,
і сонца свяціла.
А потым, як крышку
на сон пахіліла,
мы спалі ў зацішку,
а сонца свяціла.

### ПА СПЕЛЫЯ ВІШНІ

А вішні, як зоры,
вісяць на галінцы.
Палезем угору
з табой па драбінцы.
Хоць боязна крыху
наверх узбірацца,
ды хочацца ціха
з драбінкай гайдацца.
Калі ж мы высока-высока
залезем,
мы вёдры навокал
старанна развесім...
Рвём ягады ўвішна,
аж рукі нямеюць.
Спяшаемся.
Вішні
вось-вось пераспеюць.
Рвём бесперастанку
ў чатыры рукі.
Не мы, дык уранку
аберуць шпакі.

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## 28

*(працяг з папярэдняга нумара)*

### Шарады

Шарада — гульня, у якой загаданае слова дзеліцца на часткі, і кожная з гэтых частак з'яўляецца самастойным словам у пачатковай форме.

Каб скласці шараду, трэба спачатку адшукаць такое слова, якое дзеліцца на самастойныя сэнсавыя часткі, напрыклад, *каса: к-аса* (прыназоўнік і насякомае), *І-рак* (злучнік і жывёліна), *кара-мель* і г.д., і скласці кароткае тлумачэнне да кожнай часткі слова — „зашыфраваць" яго. А затым паспрабаваць скласці вершаваную шараду. Прыкладна так: *а* — злучнік, *тара* — упакоўка; *атара* — авечы статак; шарада —

*Спачатку ты злучнік вазьмі для мяне,*
*А потым — прадукты складзеш ты ва мне.*
*Дзве часткі складзі, чалавеча,*
*І цэлае: статак авечы.*

Гульні з шарадамі розныя. Можна прапанаваць загадкі ў выглядзе такіх апісанняў:

*1) пачатак — мера плошчы, канец — нота, цэлае — музычны інструмент;*
*2) першае — прыназоўнік, другое — займеннік, усё — дакладныя каляндарныя тэрміны якіх-небудзь падзей;*
*3) спачатку прыназоўнік, потым частка твару, а разам — вынік снежнай буры.*

А можна так: дзве каманды рыхтуюць па пяць (ці іншую колькасць) цэлых слоў, напрыклад, такіх, як *фасад, кіпарыс, прывоз, цюльпан, марапалаванне, запалка, Куляшоў, контур, маслабойка, адвага, прыказка, настрой, рабіна, парэчка, шарманка, якут* і інш. Па сігналу каманды перадаюць адна адной лісткі з запісанымі словамі. За вызначаны час кожная каманда павінна знайсці ў кожным слове часткі шарады і скласці яе. Па сігналу лісткі здаюцца на праверку. Паспелі здаць да сігнала — два балы дадаткова; за вершаваную шараду — тры балы дадаткова.

Адгадайце наступныя шарады:

1. Услед за жыллём
Прыназоўнік пастаў,
І буду я месцам,
Дзе плавяць метал.

2. Мастак вядомы — першы склад,
Другі — пчаліная сям'я,
А ўсё — працоўны ці салдат,
Што слаўны ў працы і баях.

3. Першую ў сістэме мер шукай,
Па другой бягуць удалеч шыны.
Месцамі спярша іх памяняй,
А затым з абедзвюх іх складай
Сельскагаспадарчую машыну.

4. Пачатак мой шукай у санках,
І ў сталяроў, і ў стрыгалёў.
Канец мой знойдзеш на стаянках
Марскіх вялізных караблёў.
А цэлая гатова
Зрабіць цябе здаровым.

5. Мой першы склад шукай у геаметрыі,
На караблі шукай другі мой склад.
А цэлым будзе назва той прафесіі,
Што чалавека ў космас прывяла.

6. Мяне ты ў моры пашукай
І хвалю да мяне дадай —
І апынуся я у полі,
Там, дзе належыць быць жывёле.

7. Паміж займеннікамі конь
Стаяць у вас павінен —
І атрымаецца тады
Усходняя краіна.

8. Склад першы на дрэве тырчыць
Каня паганяюць другім.
А ўсё — і скраіць, і пашыць,
Каб стала адзеннем тваім.

9. Да назвы жывёлы
Дадай адну з мер,
І разам убачыш
Раку ў СССР.

10. У танцы рух — мой першы склад.
Другі ў жывёлы ты знаходзіш.
А цэлае ў рацэ шукай,
У хату праз мяне ўваходзіш.

11. Я — вораг бруду і агню.
Дадай сям'ю — адразу
Змагу падняцца ў вышыню
Празрыстым лёгкім газам.

12. За мерай ноту стаўлю я —
Чытай жаночае імя.

13. Першае можна засеяць другім,
А ў цэлым мы часам улетку ляжым.

14. Выклічнік — першая частка мая.
Другая — на рацэ і ў моры.
А разам — ёсць на карце я,
Вядомы беларускі горад.

15. Мяне ты можаш згатаваць,
А потым да мяне дадаць
Прыбор, што мерае глыбіні, —
Тады шукай у моры сінім.

*(працяг у наступным нумары)*

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Дзяўчынка Галінка штосьці старанна малюе на паперы. Падыходзіць бацька і пытае:
— Што ты тут намалявала?
— Птушачак.
— А чаму ж яны ўсе сінія?
— Дык гэта ж сінічкі!

* * *

Настаўнік пытае вучня:
— Міколка, чаму буслы адлятаюць на зіму ў цёплыя краіны?
— Таму, што людзі там таксама хочуць мець дзяцей.

* * *

Чатырохгадовы Бобі гуляў з коцікам перад камінам. Коцік замурлыкаў. Бобі доўга глядзеў на яго, потым схапіў за хвост і адцягнуў ад каміна.
— Што ты робіш? — спытала маці. — Нельга ж крыўдзіць коціка!
— Я не крыўджу. Я проста адсоўваю яго ад агню; ён ужо закіпеў.

* * *

Хлопчык бачыць у магазіне чарапаху.
— Скажыце, фройляйн, колькі яна каштуе?
— Сорак марак.
— А без скрыні?

Падборку зрабіў
**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

Беларускія гульні

# ЗАІНЬКА

Удзельнікі гульні бяруцца за рукі і ўтвараюць круг. У сярэдзіне адзін водзіць, г.зн. ён зайка. Усе спяваюць:

Заінька да шарусенькі,
Заінька да бялюсенькі!
Праскачы, зайка, ў дзірачку
Да выламі сабе да быліначку.
Праскачы, зайка, куды хош,
Выбірай былінку, каторую хош.
Заінька, павярніся,
Шэранькі, абраціся.
У нас гарадочкі гарадзецкія,
Усе ў нас зацэпачкі нямецкія.
А пайдзі, наш зайка, ў скокі, ў бокі,
Запляшы, наш зайка, да ў далоні.

Увесь час зайчык стараецца выскачыць з круга. Пры заканчэнні песні ўсе павінны запляскаць у далоні. Гэтым момантам карыстаецца зайка: ён хапае каго-небудзь з круга і хутка становіцца на яго месца, а той, хто застаўся без месца, павінен вадзіць, быць зайкам.

♩= 120

За - інь - ка да ша - ру - сень - кі, за - інь - ка
да бя - лю - сень - кі! Пра - ска - чы, зай - ка, ў дзі -
- рач - ку да вы - ла - мі са - бе да бы - лі - нач - ку.
Пра - ска - чы, зай - ка, ку - ды хош,
вы - бі - рай бы - лін - ку, ка - то - ру - ю хош.

АДКАЗ НА „ПАДАРОЖЖА"

**Шарады.** 1. *Ар-фа;* 2. *да-ты;* 3. *за-нос.* 1. *Дом-на.* 2. *Ге-рой.* 3. *Тракт-ар.* 4. *С-порт* (маецца на ўвазе гук [с]. 5. *Пі-лот.* 6. *Буй-вал.* 7. *Я-поні-я.* 8. *Сук-но.* 9. *Вол-га.* 10. *Па-рог.* 11. *Вада-род.* 12. *Га-ля.* 13. *Га-мак.* 14. *Го-мель.* 15. *Каша-лот.*

# ЯК КАРАЛЁК І ЖАЎНА ПАСЯБРАВАЛІ

Маладыя каралькі з жоўтымі чубкамі сядзелі ў мяккім гняздзечку на елцы.

— Ах, як хораша, як прыгожа сёння! — радаваліся яны.

Унізе каля елкі козачка траву шчыпала, на ўсю палянку конікі сакаталі, а на пянькy яшчарка грэлася. Неба чыстае, як люстэрка.

А пасля паўдня на небе з'явіліся белыя, як вата, аблачынкі. Яны раслі як на дражджах і хутка ў цёмныя хмары ператварыліся. Вецер узняўся. Яркія маланкі заблісkалі. Ударыў пярун, і адразу на зямлю дождж абрынуўся.

Каралькі сціснуліся ў гняздзечку, прыціснуліся адзін да аднаго. Добра яшчэ, што мама побач, а то і ведай, што рабіць.

А навальніца не сунімалася. Стрэліў пярун — і ў елку папаў, дзе гняздо каралькоў было.

Толькі на другі дзень ачомаўся каралёк. Ні бацькоў, ні брацікаў — усе загінулі. Адзін ён застаўся. На ножку не ступіць. Пэўна, зламаў яе, калі з гнязда падаў. Ад болю ажно сэрца заходзіцца.

Сядзіць жоўтагаловы каралёк ля раструшчанай елкі і з месца скрануцца не можа. Стаў каралёк, як камарык, папіскваць, на дапамогу зваць. Хоць бы адну расіначку на дзюбку. Паспрабаваў каралёк да травінкі дацягнуцца, але не змог.

Сонейка паднялося, прыпякаць пачало. Зусім занядужаў каралёк і заснуў. Спіць жаўтароцік і чуе, як нехта пытаецца ў яго:

— Каралёк, каралёк, кароценькі насок, чаго стогнеш так, ці не захварэў ты?

Расплюшчыў каралёк вочы і бачыць ля сябе даўгадзюбую птушку. Сама чорная, на патыліцы чырвоная шапачка.

— Не палохайся мяне, каралёк. Гэта я, жаўна.

Расказаў каралёк жаўне аб сваім горыбядзе, а тая і пашкадавала яго:

— Не тужы, каралёк. Я ножку тваю вылечу. Пакуль паправішся — са мною ў дупле пажывеш.

Распрасцёрла жаўна крылы, каб каральку лягчэй было па іх на спіну забрацца, і загадала:

— Залазь і трымайся. Дом мой непадалёк адсюль.

Праляцелі яны над ельнікам, мінулі палянку, за якой сасновы бор пачынаўся. У гэтым бары на высокай сасне і жыла ў дупле жаўна.

Накарміла жаўна каралька, свежай вадзіцай з лясного азерца напаіла.

— А цяпер пачакай мяне, я хутка, — сказала гаспадыня і пырхнула з дупла.

Гадзіну чакаў каралёк, другую. Хвалявацца пачаў. Можа, што нядобрае здарылася з жаўной?

Нарэшце, калі пачалі апускацца на зямлю прыцемкі, жаўна вярнулася ў дупло.

— Во, усюды аблятала, пакуль табе лякарства знайшла! — У дзюбе яна трымала лісце крываўніка. — Будзем тваю ножку, каралёк, лячыць.

З адвару крываўніка жаўна зрабіла прымочку і прыклала да хворай ножкі каралька. Так і лячыла каралька жаўна.

Праз тыдзень тупнуў ножкай каралёк і зусім болю не адчуў. Ад радасці жаўну ў дзюбку пачаў цалаваць, па чырвонай шапачцы гладзіць.

Прайшло нямала часу. Але жаўна і каралёк не пакідаюць адно аднаго ні на хвіліну. Куды ляціць жаўна — туды і каралёк. Куды каралёк — туды і жаўна. Каб цяплей было, удваіх і зімовую сцюжу пераносяць, і вясну сустракаюць з радасцю.

Я бачыў іх у лесе не адзін раз. А ці даводзілася вам напаткаць разам жаўну і каральку? Калі так, то гэта ж тыя самыя жаўна і каралёк, пра якіх я вам расказаў. Вось вам казка, а мне абаранкаў вязка.

**ІВАН ГАЛУБОВІЧ**



## ХТО ВЕДАЎ ЯНА ТАРАСЕВІЧА?

У 1889 годзе ў Саколцы нарадзіўся Ян Тарасевіч — педагог, піяніст, кампазітар. З 1903 года па 1915 год вучыўся ў Пецярбургскай кансерваторыі па класах фартэпіяна і кампазіцыі. З 1918 года, за выключэннем невялікіх перапынкаў, жыў у Саколцы, Беластоку. Выкладаў фартэпіяна ў Гродне, Саколцы, Беластоку. Памёр у 1961 годзе. Пахаваны на праваслаўных могілках у Саколцы. Пры жыцці Тарасевіча выйшла з друку ў Польшчы ягоная кніга па беларускаму фальклору. Меў дачыненне да выхавання такога музыканта як Юрка Максімюк.

### ПЫТАННІ

1. Ці ёсць сведкі ягонага жыцця і творчасці зараз у беластоцкім асяроддзі? Калі ёсць, пажадана атрымаць ад іх успаміны пра Тарасевіча.

2. Ці захаваліся якія-небудзь дакументы пра дзейнасць Тарасевіча? Калі захаваліся, ці магчыма атрымаць копіі?

3. Ці існуюць фотаздымкі Тарасевіча? Калі існуюць, ці магчыма атрымаць копіі (лепш арыгіналы)?

4. Просім дапамагчы атрымаць фотаздымкі магілы Тарасевіча і дома, у якім ён жыў (жыў адзінокім да канца жыцця ў дужа малым, драўляным дамку па вуліцы Бэма ў Беластоку).

5. Просім дапамагчы набыць арыгінал ці копію кніжкі Тарасевіча, якую ён склаў па просьбе Беларускага таварыства. У гэтай кніжцы сабраны беларускі фальклор аколіц Белай-Падляскі. Кніжка была выдадзена перад пачаткам II сусветнай вайны.

6. Калі ёсць у каго арыгіналы ягоных твораў, ці магчыма іх атрымаць (ці копіі)?

7. Як склаўся жыццёвы шлях Юркі (Ежы) Максімюка? Якія былі жыццёвыя і творчыя адносіны паміж Тарасевічам і Максімюком?

8. Ці ёсць магчымасць атрымаць фотаздымкі Юркі Максімюка?

Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне „Беларуская Капэла" вельмі зацікаўлена ў адраджэнні творчай спадчыны Яна Аляксеевіча Тарасевіча. Яе намаганнямі ўжо выканаяны (у канцэртах) шэраг твораў кампазітара, атрыманых ад пана Анатоля Чэрэпіньскага з Любліна.

Тая спадчына, якая зараз у Мінску, выкарыстоўваецца ў працы вядучых выканаўцаў краіны (Ігар Алоўнікаў — фартэпіяна, Ганна Каржанеўская і Віктар Скарабагатаў — вакальныя творы, хор „Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева — харавыя творы).

Часопіс „Мастацтва" рыхтуе матэрыял пра жыццё Тарасевіча, радыё рыхтуе перадачу (выйдзе ў эфір у чэрвені бягучага года).

Ёсць зацікаўленасць у тэлевізійных колах аб здымках фільма пра кампазітара.

Мастацкі кіраўнік
„Беларускай Капэлы"
**ВІКТАР СКАРАБАГАТАЎ,**
Мінск

**Ад рэдакцыі:** Чытачоў „Нівы", якія маглі б адказаць на якія-небудзь з пастаўленых Віктарам Скарабагатавым пытанняў, просім кантактавацца з нашай рэдакцыяй.

# ЯШЧЭ РАЗ „РОДНАЕ СЛОВА"

Другая частка дэкламатарскага конкурсу сцэнічнага слова беларускай мовы, цяпер для вучняў сярэднік школ і дарослых праводзілася ў Гайнаўскім беларускім ліцэі 9 красавіка г.г. Усіх удзельнікаў прывітаў настаўнік беларускай мовы Аляксей Мароз. Потым слова ўзяў старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Янка Сычэўскі: „Носьбітамі беларускай асветы, носьбітамі беларускай культуры з'яўляюцца настаўнікі са сваёй моладдзю. У школах арганізуюцца ўсялякія конкурсы, каб дзеці і моладзь не забывалі сваёй роднай мовы і культуры. Шчыра дзякуем ім за гэта і за тое, што так мнагалюдна прыбылі на гэты конкурс". Я. Сычэўскі пажадаў усім, каб родная мова гучала не толькі на конкурсах, не толькі на ўроках беларускай мовы, але каб гучала і ў кожным доме, на вуліцы, на працы. Падзякаваў дырэктару новага прыгожага ліцэя Яўгену Сачко за прыхільнасць і створаную атмасферу, настаўніцкаму калектыву за падрыхтоўку конкурсу.

Спадар А. Мароз прадставіў камісію ў асобах: старшыня — Тамара Русачык, члены — Надзея Артымовіч і Валянціна Ласкевіч. Конкурс вялі вучаніцы Агнешка Нікалаюк і Ева Петручук. Гукавой апаратурай кіраваў Грыша Назарук.

Згодна з рэгламентам конкурсу кожны ўдзельнік прачытаў два беларускія творы — верш і празатарскі твор.

Выступілі хлопцы з Беластока з „Балагана" са сваім шэфам Янкам Морданем. Маладцы! Відаць добрую іхнюю і Янкаву працу. Пасля іх прадставіліся ліцэісты з Гайнаўкі і Бельска. Усяго выступілі 24 удзельнікі. Мы пачулі шырокі выбар беларускай літаратуры, таксама і нашых „белавежцаў". Былі вершы патрыятычныя і рэфлексіўныя, пра любоў да прыроды і чалавека, пра родны кут, пра вайну і забаву... Кожны з удзельнікаў мог сабе выбраць тое, што яго цікавіла, захапляла, хвалявала, і інтэрпрэтаваць гэта на свой лад. На жаль, не ўсе дэкламатары выступалі перад мікрафонам, што пры акустыцы залы і калідора было б карысным.

Спецыяльную ўзнагароду заваявала **Гражына Галавачык** з гайнаўскага белліцэя (выканала яна творы А. Барскага і Я. Целушэцкага). Гэта называецца ўжо прафесійны ўзровень! Белая блузка, белая хусцінка і мілая ўсмешка дапаўнялі майстэрства. Гэта не была проста дэкламацыя — гэта тэатр! Рай для душы кожнага ўражлівага беларуса!

Першае месца ўзяла **Янна Крот** з Бельска; да верша „Хлеб" В. Шведа выступіла яна ў чырвонай хустцы і з боханам хлеба. На маю думку, гэты „рэквізіт" не быў „выйграны" да канца — з рэквізітам трэба вельмі добра абыходзіцца. Ася прачытала яшчэ фрагмент празатарскага твора Б. Сачанкі пад тым жа загалоўкам.

Другім месцам „падзяліліся" **Янна Мазайла з Гайнаўкі і Януш Катэльчук з Бельска.** Янна — за твор А. Барскага „Маці" і В. Петручука „Вярнулася сіротае шчасце", а Янка — за твор Я. Купалы „Спадчына" і фрагмент апавядання В. Быкава „Круты бераг ракі".

Трэція месцы занялі: **Павел Даўжынскі** — вучань Электрычнага тэхнікума (проза Ю. Генюша і верш В. Зуёнка) і **Рыгор Цыванюк** з Комплекса прафесійных школ у Беластоку (верш У. Караткевіча „Заяц варыць піва" і проза В. Петручука „Карусель").

Вылучаны: **Аліна Аўрамюк, Марак Пост з Бельска, Эдыта Навіцкая, Анжэліка Раманчук і Кацярына Сахарчук з Гайнаўкі.**

Конкурс і ўзнагароды падрыхтаваны былі Галоўным праўленнем БГКТ. Узнагароды ўручала сакратар ГП БГКТ В. Ласкевіч. Усе ўдзельнікі атрымалі таксама новы „Беларускі каляндар" і іншыя беларускія кніжкі.

Да сустрэчы праз год!

**МІХАЛ ГОЛУБ**

*Новыя вершы*

*БАРЫС РУСКО*

### ПРЫСУД

Тут няма пушчы дрэў.
Тут пушча каранёў.
  Абезгалоўленая.
  Крывёй сыходзіць.
Зялёны небакрай кануў у катакомбы.
  З сораму ці са страху?
А так нядаўна лісце шумела ў аблоках
і птушку песціла вялікавокую
і двурога-гіганта.
З канца чытае Біблію віноўнік,
прыстанішча намацвае сумленню.
За глыбаю, дзе каменны ўсадзіўся
                                                  цень,
дзіцячы крык — мёртвы.

*ВІКТАР ШВЕД*

### ЖЫЦЦЁ НАМ З ПЕСНЯЙ ПРЫГАЖЭЕ

*Гарадоцкаму хору прысвячаю*

Яшчэ ў гадах пяцідзесятых,
Пад чыстым гарадоцкім небам,
З настроем маладым, прыўзнятым
Песняй дзяліліся, як хлебам.

І паплыла як сцяг свабоды
Песня адгэтуль па краіне,
Напомніла свайму народу,
Што зварухнуцца ён павінен

І абвясціць, што ўжо спрадвеку
Ён пражывае на Падляшшы,
Што як паветра чалавеку
Трэба бадзёрай песні нашай.

І гарадоцкія жанчыны
Песняй жыццё ўслаўляюць штодзень,
Высакародную павіннасць
Спаўняюць за саракагоддзе.

Песні ніколі не памерці!
Хай родзіцца і не змаўкае.
У маладых жаночых сэрцах
Песня заўсёды маладая!

*14 мая 1994 года*

# ХОЧАМ ПРАТРЫМАЦЦА ЯК НАЦЫЯ

*Працяг са стар. 1*

— Немажліва дацаніць значэнне нацыянальнай школы, якая мае якраз самы вялікі ўплыў на фармаванне свядомасці. У многіх выпадках яно большае нават за ролю сям'і, — гаворыць спадар Фаранцэвіч.

Трэба зазначыць, што настаўнікі заангажаваныя і адданыя справам сваёй нацыі. Шмат працы для асяроддзя выконваецца грамадскімі сіламі. У Пуньску дзейнічаюць аж тры мастацкія калектывы. Інструментальна-вакальны ансамбль „Ульбуонелес" выконвае фальклорныя і эстрадныя песні, а таксама танцуе народныя танцы. Працуе таксама харэаграфічны ансамбль „Ётва", дзе выступаюць дзеці, моладзь, дарослыя і артысты-аматары. Таксама цікавы этнаграфічны калектыў Альдоны Вайцяхоўскай. Многая колькасць самадзейнікаў — гэта вучні ўсіх літоўскіх школ. Ліцэісты маюць таксама сваю газетку, якую змяшчаюць на старонках „Аўшры" (газеты літоўцаў у Польшчы).

— У сем'ях здараюцца ў нас час ад часу розніцы ў поглядах, але ўсё ж такі перамагае галоўная ідэя нашай дзейнасці: **усе працуюць дзеля захавання сваёй нацыі**, — прызнаецца спадарыня Марыянна Чарняліс. Пані дырэктар матэматык па спецыяльнасці. Дзякуючы спрыяючым акалічнасцям я мела прыемнасць паслухаць і пабачыць, як выглядае ўрок матэматыкі па-літоўску. Вельмі здзівіў мяне факт, што дугакласнікі карысталіся польскімі падручнікамі, такімі самымі, якімі карыстаюцца і ў нашых ліцэях. Пачуць польскую мову на ўроку аднак мне не давялося. Другакласнікі вельмі цікавіліся нашымі ліцэямі. Задавалі мне шмат цікавых і цяжкіх пытанняў, напрыклад: **чаму вашыя ліцэі называюцца беларускімі, калі амаль усе іх выпускнікі асімілююцца?. Наш народны нігілізм быў ім зусім не зразумелы.**

Інакш глядзелі на гэта старэйшыя людзі, якія амаль усё сваё дарослае жыццё змагаліся за справы сваёй нацыі. Пачаткі былі вельмі складаныя. Варта тут працытаваць успаміны Рамуальда Віткоўскага — войта гміны Пуньск, у якіх гаворыцца пра мінулае ліцэя:

„У 1956 г. Пуньск быў парафіяльнай мясцінай з некалькімі драўлянымі хатамі без электрычнасці. Высокая камісія ад ваяводскіх улад з Беластока, чарговы раз ужо візітуючы Пуньск, сцвердзіла ў прысутнасці мясцовых земляробаў, што няма тут ніводнага будынка, які падыходзіў бы на сярэднюю школу. Тады прысутны на сустрэчы тадышні старшыня Грамадскай рады нарадовай у Пуньску Антон Юдыцкі сказаў, што такое памяшканне знойдзе на працягу некалькіх дзён. Камісія, узбударажана ходам справы, была вымушана адобрыць прапанову і станоўча аднесціся да заявы. Выгаданне месца старшынёй адбылося такім чынам, што перадаў ён памяшканне, якое дагэтуль займала канцылярыя грамадскай рады і перанёс сваё бюро ў горшыя памяшканні. Знаёмыя ў Пуньску, ацэньваючы паводзіны Антона Юдыцкага гаварылі, што „вынёс ён грамадскую канцылярыю на вуліцу, каб знайсці памяшканне для літоўскай гімназіі" (Romuald Witkowski, „Krok po kroku", Lituanica 1, 1991 г.).

Дзякуючы ахвярнай працы настаўнікаў, літоўскі ліцэй хутка стаў адной з найбольш прэстыжных школ у аколіцы. Пра высокі ўзровень навучання сведчыць факт, што 60% выпускнікоў паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Мова не з'яўляецца для вучняў ліцэя ніякім бар'ерам. Калі ёсць такая патрэба, усе, натуральна, карыстаюцца польскай мовай.

Варта дадаць, што многія выпускнікі літоўскага ліцэя вяртаюцца працаваць на родную ніву. Амаль уся адміністрацыя Пуньска — гэта выпускнікі літоўскага ліцэя, **свядомыя літоўцы**. Таксама амаль усе настаўнікі ў Пуньску і наваколлі закончылі літоўскі ліцэй.

Спадарыня Чарняліс і спадар Фаранцэвіч паінфармавалі мяне, што вядуцца старанні за двухмоўе ва ўстановах Пуньска. Варта дадаць, што гмінная рада (у якой большасць літоўцаў) назвала ўжо некалькі вуліц прозвішчамі нацыянальных літоўскіх дзеячоў і творцаў. Зараз жа вядзецца змаганне за двухмоўныя табліцы, надпісы і шыльды (мова літоўская мае своеасаблівую фанетыку, якую нельга перадаць польскім алфавітам).

Мае суразмоўцы назвалі таксама сур'ёзную праблему. У апошні час не ўсе выпускнікі могуць знайсці працу на роднай ніве. Такая сітуацыя можа прывесці да страты здабыткаў шматгадовых старанняў і працы.

Калі я папыталася, адкуль гэтыя ўсе людзі бяруць энергію, пачуўся вельмі сэнсоўны і адназначны адказ:

**— Хочам пратрымацца як нацыя! —** сказалі мае размоўцы: **дырэктар ліцэя Марыянна Чарняліс і Юзаф Сыгіт Фаранцэвіч — старшыня Управы Літоўскай супольнасці.**

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

# ВЯЛІКІ ПРАЦАЎНІК НА НІВЕ ХРЫСТОВАЙ

Ужо два гады вядзе сваю нялёгкую пастырскую працу ў Дубічах-Царкоўных настаяцель а. Віталій Гаўрылюк. Адразу пасля свайго прыходу да нас энергічна ўзяўся за працу. Ужо ў 1992 годзе па яго ініцыятыве пачалася пабудова царкоўкі ў гонар св. апостала-евангеліста Іаана каля вёскі Елянка размерам 14 на 7 метраў. Майстры, сябры бацюшкі, пабудавалі яе на працягу трох месяцаў. Вялікую дапамогу пры пабудове аказалі войт Дубіцкай гміны Анатоль Паўлоўскі, які выдзеліў для гэтай мэты фінансавыя сродкі і надляснічы Ул. Куптэль, які забяспечыў матэрыялам — драўнінай. Не асталіся абыякавымі да гэтай каштоўнай ініцыятывы і жыхары вёскі; былі таксама ахвяраванні ўсіх вернікаў.

Бацюшка ўзяўся таксама за аднаўленне дубіцкай царквы. Майстрам з Дубін быў выкананы ківот на Гасподнюю дамавіну, пасля былі зроблены падвойныя вокны ў царкве. На пачатку 1993 года па праекту архітэктара з Ковеля быў выкананы з асобай драўніны і пазалочаны новы іканастас. Стары, таксама прыгожы, іканастас умелыя майстры паставілі ў царкве ў Елянцы, дапасоўваючы яго да яе меншых размераў. У скорым часе дубіцкая царква атрымала новае, пазалочанае напрастольнае Евангелле, пазалочаны крыж, даразахавальніцу, сямісвечнік, падсвечнікі, вялікі паніхіднік і чатыры новыя аблачэнні. У канцы мінулага года а. Віталій запланаваў размалёўку царквы. Усе сцены былі памаляваны фарбай, мастакі з Украіны напісалі многа прыгожых іконаў і абразоў з біблейскімі сюжэтамі. Царква, якая стаіць у маляўнічым месцы паміж Дубічамі-Царкоўнымі і Грабаўцам выглядае цяпер прыгожа і звонку, і ўнутры. Не забыў наш настаяцель і пра могілкі, куды, дзякуючы яго ініцыятыве, быў пракладзены водаправод. Побач царквы і прыхадскога дома выкапалі сажалку, у якой ужо плаваюць рыбы. Пералічаныя будаўнічыя дасягненні — гэта яшчэ не ўсё: наш энергічны бацюшка хоча яшчэ паставіць царкву на ўзгорку каля ўрочышча „Бахматы", дзе цяпер стаіць адзінокі крыж (пісаў я пра яго калісь у „Ніве"). На гэтым месцы некалькі соцен гадоў таму стаяла Петрапаўлаўская царква, але згарэла па невядомых прычынах. Легенда гаворыць, што правалілася яна ў зямлю з-за грахоў людзей і ў дзень святых Пятра і Паўла, апоўдні, прылажыўшы да ўзгорка вуха, можна пачуць у яго нутры царкоўныя званы. Ці гэта праўда — не ведаю, але легенда прыгожая. Каля „Бахматаў" зроблена штучнае возера і бацюшка разлічвае на


*Айцец Віталій Гаўрылюк.*

зацікаўленне гэтай ваколіцай турыстаў.

У 1993 годзе было заснавана Брацтва праваслаўнай моладзі і абноўлены прыхадскі хор, які ўдзельнічаў у Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, дзе быў вылучаны і атрымаў узнагароду публікі. Клапоціцца а. Віталій і пра старэйшых: адзінокіх і калекаў. На Каляду арганізаваў ім пачастунак у вёсцы Старына каля Белавежскай пушчы. Дубіцкім школьным аўтобусам усе дзядулі і бабулі былі давезены на месца сустрэчы і адвезены дамоў; усе яны вельмі ўдзячны за гэта настаяцелю (быў пра гэта артыкул у „Ніве" пяра С. Куліка).

Старэйшыя людзі гавораць, што на тое, што на працягу двух гадоў зрабіў а. Віталій, іншым не хапіла б і сарака гадоў. На свята Пятра і Паўла, 12 ліпеня 1993 г., дубіцкую царкву наведаў мітрапаліт Васілій, які асвяціў новы іканастас. Даўно не было ў Дубічах-Царкоўных такога візіту. Мітрапаліт уручыў царкоўныя адзнакі вернікам найбольш адданым працы на Хрыстовай ніве. Ордэн св.св. Марыі і Магдаліны II ступені атрымалі: стараста царквы Мікалай Масальскі з Тафілаўцаў, войт гміны Анатоль Паўлоўскі і надляснічы Ул. Куптэль. Той жа ордэн III ступені атрымалі жыхары Грабаўца: Сяргей Нічыпарук і Афанасій Трафімюк.

Мікалай Масальскі — гэта чалавек набожны, працавіты, ахвярны і сумленны; да таго — добры гаспадар. Ён многа сіл і энергіі прысвяціў царкве і веры. Сяргей Нічыпарук быў старшынёю будаўнічага камітэта. Ён бізнесмен, адукаваны чалавек (у свой час закончыў духоўную семінарыю ў Варшаве), выдатны аратар, асабіста ведае Зянона Пазьняка. Родам ён з Залешан, сям'я яго была пакрыўджаная бандай Бурага, калі палілі вёску і хату з жывымі людзьмі; крыўды аднак ён да нікога не мае. Успомніць таксама трэба і пра грабавецкіх калядоўшчыкаў, у большасці жанчын, якія калядуюць не толькі ў сваёй вёсцы, але і ў суседніх. Сабраныя ад людзей ахвяраванні прызначаюць на патрэбы дубіцкай царквы.

Бацюшка Віталій з матушкай Валяй (яна родам з Ягаднікаў) маюць двое дзяцей: сына Аркадзія (15 гадоў), які вучыцца ў беларускай школе ў Гайнаўцы і дачку Анну (17 гадоў), якая вучыцца ў гайнаўскім Беларускім ліцэі. На Фестывалі беларускай песні яна заняла перадавое месца — „Ніва" пра гэта пісала.

Хачу яшчэ прыпомніць пра Андрэя Асеева — казака з Кубані, які жыве ў Нямеччыне (быў пра яго мой артыкул у „Ніве" летам мінулага года). Бацюшка вазіў яго на сваёй машыне з Нямеччыны ў Кубань, наведаць радзіму. Цяпер А. Асееў думае цалкам вярнуцца ў Расею — да дзяцей сваіх (жонка нядаўна памерла). І хто паклапоціцца пра гэта? Вядома, наш бацюшка. Улетку павязе ён старога казака на пастаяннае жыхарства на яго радзіму.

На гэтым канчаю свой допіс і жадаю айцу Віталію Гаўрылюку далейшых поспехаў у працы на Гасподняй ніве і Божага блаславлення.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




## ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА Ў СТАТЫСТЫЦЫ

Нядаўна выйшла з друку кніжка *) ў двух тамах, якая паказвае ў ліках прысутнасць праваслаўя ў межах Рэчыпаспалітай ад X стагоддзя аж па сённяшні час. Выдаўцом даведніка з'яўляюцца Галоўная статыстычная ўстанова (GUS) і Праваслаўная мітраполія ў Варшаве. Рэдактары Люцыян Адамчык (GUS) і Антон Мірановіч (Мітраполія) сарганізавалі аўтарскі калектыў з прадстаўнікоў навуковых асяроддзяў Польшчы. Сярод аўтараў ёсць некалькі чалавек, якія шмат гадоў даследуюць гісторыю праваслаўя ў Рэчыпаспалітай. У першым томе апрача статыстычных дадзеных багаты тэарэтычны матэрыял, які ў аналітычны спосаб паясняе ўсё тое, што выплывае са статыстыкі.

Другі том — гэта выключна вынік працы айца Рыгора Сасны з Рыбалаў і прысвечаны ён поўнасцю дэмаграфічным праблемам праваслаўных прыходаў Беласточчыны. Для даследчыкаў гісторыі, дэмаграфіі ці нават эканамічных працэсаў праца а. Рыгора Сасны гэта неацэненая крыніца ведаў. Лікі хрэсьбінаў, шлюбаў і пахаванняў у кожнай парафіі, зарэгістраваныя ад моманту заснавання метрыкальных кніг, паказваюць вельмі дэталёва ўсе дэмаграфічныя працэсы, якія, пачынаючы з XVIII стагоддзя, адбываліся на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны.

**РЭД.**

---

*) Kościół Prawosławny w Polsce dawniej i dziś, Warszawa 1993, wyd. Główny Urząd Statystyczny, Warszawska Metropolia Prawosławna, nakład 1 000 egz.

# КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

*(заканчэнне)*

Як ужо згадвалася, на падставе найбольш праўдападобных меркаванняў прынята лічыць, што крыж Еўфрасінні Полацкай апынуўся або на Усходзе, або на Захадзе. Зразумела, нельга выключыць і яго знішчэння ў выніку ваенных падзеяў або людзьмі, несвядомымі сапраўднай каштоўнасці твора Лазара Богшы. Гэтая апошняя версія не месціцца аднак у галаве. Спецыялісты проста не хочуць верыць у такую, занадта ірацыянальную, магчымасць.

Такім чынам застаюцца два астатнія варыянты: крыж быў вывезены ў Расею, або апынуўся ў ЗША. Як мы ўжо згадвалі, на афіцыйны запыт магілёўскага абласнога музея санкт-пецярбургскі Эрмітаж адразу скіраваў сляды пошукаў у напрамку збораў Морганаў у Нью-Йорку. Гэтую інфармацыю пацвердзіў некалькі гадоў таму супрацоўнік Эрмітажа Барыс Сапуноў. Сустрэўшыся ў Полацку падчас урачыстасцей у гонар 500-годдзя Францыска Скарыны з прафесарам Адамам Мальдзісам, Сапуноў заявіў, што гэта ён адказваў на запыт магілёўскага музея. Доктар гістарычных навук Сапуноў зноў пацвердзіў, што крыж быў закуплены ў калекцыю Морганаў на аўкцыёне ў Заходняй Еўропе адразу пасля вайны.

Прафесар Мальдзіс трапіў у сваіх даследаваннях на яшчэ адну магчымую версію. Згодна таму, што падказаў яму магіляўчанін Філіповіч, ён напісаў у сваёй кніжцы „Таямніцы старажытных сховішчаў" наступнае: „Настаяцель царквы ў імя Еўфрасінні ў Полацку, Міхал Кузьменка называў прозвішча іншага мільянера — Ракфэлера. Нібыта ў архіве Ракфэлера працаваў у 1962 годзе гісторык, прафесар Уладзімір Скаралецкі, які і бачыў там крыж".

Морганаўскім следам, які лічыўся вельмі праўдападобным, пайшлі амаль усе зацікаўленыя лёсам крыжа асобы. Супрацоўнік Эрмітажа — Шаўкоўнікаў — прыватна ездзіў у ЗША і намагаўся пранікнуць у зборы Морганаў. На жаль, як піша Уладзімір Арлоў, расейскі навуковец „выявіў празмерны імпэт і атрымаў ад нейкіх маладзёнаў атлетычнага выгляду ветлівую прапанову ўгамавацца, бо інакш яму не гарантавалі вяртання дадому". Калі Шаўкоўнікаў напісаў у 1966 годзе ў мастацкім часопісе „Journal of glass studies" артыкул пра крыж, дык абзац пра яго месцазнаходжанне быў выкрэслены без згоды аўтара.

У фонд Моргана трапіў таксама прафесар Мальдзіс. У сваім „Нью-йоркскім дзённіку" ў 1990 годзе ён напісаў, што спрабаваў паглядзець каталог музейных фондаў, але не атрымаў яго. Супрацоўніца Фонда, Зазоўская, паведаміла затое, што асноўнае багацце ў сутарэннях будынка, але доступу туды не мае бадай ніхто. Што тычыцца каталога, дык маем тут дачыненне з дзіўнай супярэчлівасцю. Менавіта ў 1974 годзе Вітаўт Тумаш паведаміў у „Запісах Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва" аб сваіх спробах высветліць месцазнаходжанне крыжа „па каталогу і беспасярэднымі роспытамі". Атрымліваецца, што да нейкага часу каталог існаваў і быў даступны. Ці не знік ён дакладна тады, калі калекцыяй Морганаў пачалі празмерна цікавіцца? Хто ведае колькі, акрамя Беларусі, краін спрабавалі адшукаць у Нью-Йорку свае нацыянальныя святыні...

Прыблізна такі ж адказ, ветлівы але адмоўны, атрымаў у 1990 годзе Аляксандр Лукашук, цяпер супрацоўнік Радыё „Свабода". У Федэральным бюро расследаванняў ён даведаўся, што крыж не згадваецца нават у электроннай памяці тамтэйшых камп'ютэраў. Таксама і ў Ракфэлераўскім цэнтры ў Нью-Йорку мастацкі эксперт Брагозі запэўніла дапытлівага журналіста, што падобнага крыжа „ў мастацкай калекцыі Ракфэлераў няма і ніколі не было". Тады Лукашук звярнуўся ў агенцтва, якое выдае сусветны каталог украдзеных твораў мастацтва, але і там выявілася, што каталог фіксуе рэчы, што знаходзяцца ў вышуку ад 1945 года і не ўлічвае твораў перамешчаных у час II сусветнай вайны.

У рэшце рэшт у кастрычніку 1990 года афіцыйны зварот дырэктару морганаўскага фонду ўручыў міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка. На афіцыйны запыт дадзены быў афіцыйны адказ, што „ў самым фондзе крыжа няма, але сям'я Морганаў мае і прыватныя зборы, але за іх адміністрацыя не адказвае". Тады міністр Краўчанка звярнуўся ў Інтэрпол, які займаецца не толькі, як гэта прынята лічыць, крымінальнымі справамі, але і вышукам украдзеных каштоўнасцей. Паспрыяў гэтаму факт, што ў 1990 г. у Інтэрпол уступіў СССР. Пасля акуратнага збору ўсіх неабходных дакументаў, Беларусь у чэрвені 1991 года накіравала афіцыйную заяву ў Ліён, дзе знаходзіцца камп'ютэрны цэнтр Інтэрпола. Ужо праз месяц заява Беларусі была зафіксавана пад нумарам 34130.

Міністр Пётр Краўчанка звярнуўся таксама ў ЮНЕСКА, які валодае вельмі развітай сістэмай інфармацыі і пошукаў. У красавіку 1991 года Пётр Краўчанка сустрэўся з генеральным дырэктарам ЮНЕСКА Фрэдэрыкам Маерам і дамогся афіцыйнага ўключэння ў пошукі, праводжаныя Арганізацыяй, крыж Еўфрасінні Полацкай. Праз сістэму публікацый ЮНЕСКА інфармацыя пра крыж пайшла на ўвесь свет.

Такім чынам за апошнія чатыры гады, пошукі крыжа вядуцца на вышэйшым, прафесійным узроўні, на жаль, аднак, ніякіх вынікаў яны дагэтуль не далі. На думку амаль усіх, хто цікавіўся амерыканскім следам, у ЗША яны сустрэліся з нейкай няшчырасцю і круцельствам, якія дазваляюць меркаваць, што крыж усё-такі можа знаходзіцца якраз там. З другога боку ўпэўненасці ў гэтым няма, гэтак як і няма ўпэўненасці, што крыж Еўфрасінні не ляжыць запылены ў сховішчах Санкт-Пецярбурга або Масквы. Галоўнае, што пошукі працягваюцца і гэта ўжо абнадзейвае.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

*НАТАЛЛЯ КУЧМЕЛЬ*

* * *

Холад чаромхі, тумана, раскрытае рамы;
Холадам вее салоўкавы шчокат таксама
З купаў надрэчных кустоў.

Сцюжа бяссонных стагоддзяў пустога чакання;
Пары, якой на марозе стаецца дыханне;
Сцюжа сівых валасоў.

Іскры сваяцтваў, любові, сяброўстваў цяпельцы
Не затрымаюць хвіліны, ў каторую ў сэрца
Зойдзе льдзяная ігла.

Што ж мы, як толькі разблыталі кокан малечы,
Выспелі, сталі сабою, — за век чалавечы
Маем так мала цяпла?

# ЦАНА ПРЫЕМНАСЦІ

Секс-шопы да нядаўна былі яшчэ мала вядомымі магазінамі. Вось, выпадкова, пабываў я ў Катавіцах і бачыў гэтыя крамы там на кожным рагу вуліцы. Выбар тавараў у іх шырокі.

— Для кожнага нешта па душы, — сказаў прадаўшчык, — найлепш ідуць кандомы, людзі баяцца СНІДа, а да гэтага яны ж і недарагія.

Шмат ахвотных таксама на афрадызіякі.

— Я ўжо ў тым узросце, калі на адной натуры далёка не заедзеш, — сказаў элегантна апрануты мужчына, шахцёр на пенсіі, — жонка на 16 гадоў малодшая,

**а фасон неяк жа трымаць трэба.**

— Не ўсе кліенты хочуць размаўляць, — сказаў уласнік Багдан Крупа, — пакупнікі наогул хочуць быць сам-насам з прадаўцом, толькі некаторыя не адчуваюць сораму. Людская справа.

Мужчыны ў пажылым узросце купляюць парна-фільмы ды журналы, а пазней у самотнасці

**разгружаюць сваю эмоцыю і напружанасць.**

Паны каля 60-ткі падмацоўваюць сваю патэнцыю афрадызіякамі і пратэзамі. Найменш вядома пра тых, якія купляюць лялі „як жывыя" — яны ўваходзяць і выходзяць хутка. Тыя, што выводзяцца з менш заможнага асяроддзя, заходзяць найчасцей з сяброўкамі або нарачонымі, доўга выбіраюць, голасна смяюцца

**і гавораць пра ўсё.**

На другім баку вуліцы адмена „сексу праз шыбу". Мужчына сядзіць у кабіне, а за шыбаю ўецца паненка. 5 хвілін каштуе ад 50 да 350 тысяч. За 350 — дзве паненкі, кожная з вібратарам. У некаторых кабінах прадбачлівыя ўласнікі зрабілі палічкі з папяровымі хустачкамі.

— Частка кліентаў заходзіць з цікаўнасці. Некаторыя купляюць некалькі сеансаў падрад. Ёсць і такія, якія заходзяць на тых самых дзяўчат. П'яных і агрэсіўных выкідаем. Хопіць тупнуць нагой, а за імі толькі курыцца.

**— Журналістам задарма, —**

кажа ўласнік, — толькі напішы пра мяне пазней добрым словам.

— Чаму сюды прыходжу? — смяецца мужчына ў турэцкіх джынсах. — Каб паглядзець на голую бабу. Мая старая дае мне толькі буські.

Эратычны масаж каштуе каля паўмільёна. І, на дзіў, у нашым беднаватым грамадстве карыстаецца ён немалой папулярнасцю.

**— Сексуальная напруга ў чалавека мацнейшая за голад ці інстынкт самазахавання, —**

сказаў жартоўна ўласнік салона масажу. Калі яна не разгружаецца, даходзіць да паталогіі, гвалтаў, забойстваў. Людзі, калі нават гэтага сабе не ўсведамляюць, то ўсё-такі адчуваюць гэтую справу неяк падсвядома. Таму менавіта можна не купіць яды, чаравікаў, але на секс грошы заўсёды знойдуцца.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ЯЙКІ Ў ГНЯЗДЗЕ**

Прадукты:

*4 яйкі,*
*4 лусты хлеба,*
*тлушч для смажэння,*
*некалькі галінак зялёнай пятрушкі.*

Памыць яйкі, жаўткі асцярожна аддзяліць ад бялкоў (яны павінны застацца цэлыя). Пасоленыя бялкі збіць так, каб атрымалася цвёрдая пена.

З кавалкаў хлеба выразаць кружкі, крыху памачыць іх у пасоленай вадзе ці малацэ, падсмажыць на тлушчы. Кавалакі хлеба палажыць на бляшку, на хлеб — пену з бялкоў, на пену — у сярэдзіне кожнага кавалка зрабіць ямку — жаўткі. Уставіць у цёплую духоўку і запякаць, пакуль спячэцца жаўток, а бялок набудзе залацісты колер.

Зверху ўпрыгожыць кавалкі хлеба галінкамі зялёнай пятрушкі.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Ужо некалькі разоў звярталася я да цябе са сваімі снамі і ты мне ўсе іх адгадаў так, як і мела быць. Дык вось і цяпер я хачу прасіць цябе адгадаць мой сон.

Сніцца мне, быццам на дварэ вечар. Я ўваходжу на нейкі панадворак. Разам са мною ідзе выхавацелька маёй дачушкі, а за намі бяжыць малы рыжы сабачка. Я гэтага сабачкі не хачу ўпусціць на панадворак і хутка зачыняю жалезную браму, але ён паспявае ўбегчы за намі. Пасля гэтага выхавацелька пытаецца ў мяне: „Дзе ж дзверы ў гэтым доме?" Я ёй адказваю: „Тут!" — і мы з ёю ўваходзім у хату. Там я бачу адкрытую труну з жывымі кветкамі, а на гэтых кветках ляжыць дзіцячая ручка, быццам зробленая з гіпсу. У нагах той труны сядзіць мая маці (яна ўжо памерла), плача ды гаворыць: „Ох, Тамарачка, Магдаленачка!" Я стала на калені і, злажыўшы рукі, закрычала: „О, Божа!" Пасля я падумала: „Чаму гэтыя бабы ў чорным моляцца над гэтай лялькай?" Навокал было шмат запаленых свечак.

Дык адкажы, калі ласка, дарагі Астроне!

**Тамара**

Тамара! Твой сон, хаця і выглядае даволі страшна, то не такі кепскі. Сабачка той бег за вамі, але ж быў міралюбівы і ніякай крыўды табе не зрабіў. Значыць, ёсць у цябе прыяцель. Труна табе таксама прадвяшчае добрае — нейкі прыбытак. Ты ж — жанчына не старая, а толькі старым труна прадвяшчае смерць. Больш таго, на труне ляжалі жывыя кветкі (радасць). Можа крыху непакоіць тая гіпсавая ручка, але, пэўна, гэта звязана з тваімі клопатамі пра дзяцей. Маці-нябожчыца плакала, бабы маліліся, свечкі гарэлі — усё гэта прадвяшчае табе добрае.

**АСТРОН**

# ЛІХОЕ МЕСЦА

— А хто яго ведае? — задумоўваецца баба Ліда. — Мусіць тут будзе ліхое месца. Калі мне было гадоў дзесяць, мая бабуля, калі мылася, прасіла, каб я ёй памыла спіну. І я ўсё думала, чаму яна ў яе такая рубцаваная, шурпатая, не такая гладкая, як у мае мамы. Аднойчы я не стрывала, запыталася. А баба кажа: „Гэта памятка ад нябожчыка Трахіма, ад яго пугі. Біў мяне абы за што. А твой бацька ў яго ўдаўся".

Мой бацька часта піў, і дома тады было гора. Часта мы ўсе ад яго ўцякалі. Начавалі то ў пуні, то ў суседзяў. Гаршкі ўсе дома пабіў. Урэшце так мы яму абрыдлі, што з'ехаў ад нас зя мяжу. Не пісаў дадому, не прысылаў грошай. Не ведаю, што там з ім было — можа сышоўся з нейкай, ці валачыўся п'яны.

Цяжка нам было адным. Бабуля старэнкая, хворая. Мы з Валодзем яшчэ малыя, колькі ж маглі дапамагчы маме? Неяк аднак „цягнулі" гаспадарку. Калі падраслі, пачалі хадзіць працаваць да людзей. Валодзя, малодшы ад мяне на пяць гадоў, быў ашчадны, не траціў зароблены грошай на абы-што. Збіраў і купляў гаспадарчыя машыны. Набыў конную касілку, сячкарню, збіраў грошы на малатарню, але наступіла вайна. Я яшчэ да вайны пайшла замуж, то вяселле справілі як трэба, і пасаг добры атрымала.

Забралі Валодзю на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Калі вярнуўся, узяў дзяўчыну добрую, працавітую. Нажылі дзве дачкі. Але не даў жонцы жыць — чапляўся за абы-што, біў. Хвядора забрала дзяцей і пайшла ў свет.

Валодзя пачаў мучыць нашу маму. Пашкадавалі мы яе з мужам, забралі да сябе, дагадавалі да смерці.

Валодзя прыводзіў сабе яшчэ тры жонкі, але ніводная з ім не ўжылася. Такі быў з яго чалавек! Усё гадаваў коней, кароў, але ніякага толку з гэтага не было. Не раз наша мама казала яму, каб кінуў так гаспадарыць, бо ўсё, што заробіць, то аддае работнікам ці за паслугі, але ён заўсёды адказваў: „Так буду рабіць, як мне падабаецца!" Урэшце пакінуў сабе каня і карову, гаспадарку аддаў дзяржаве. Жывёлы ў яго былі паўгалодныя, бо корм для іх купляў. Калі памёр, я наведала ягоных жонку і дзяцей. Адна дачка прыехала паглядзець на бацькоўскае, прадаць каня і карову, а другая не — жыве далекавата, і напісала толькі, што няма чаго ёй сюды прыязджаць, бо бацькі ў яе ніколі не было.

Валодзін дом стаіць самотны. Каму сюды трэба? Але, можа, і добра, што тут цяпер пустэча, бо ліха жылося заўсёды на гэтым месцы.

**АЎРОРА**

# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. пажыўная белая вадкасць, 3. аддача ў доўг, 5. французскі эвалюцыяніст (1744—1829), папярэднік Дарвіна, 7. страва з тушанай гароднінай і мясам, 9. калючае пустазелле, 10. ідэалізуе ўсё, што славянскае, 11. работнік, які доіць кароў, 12. сталіца Ганы, 14. сталіца Турцыі, 16. упадзіна паміж гор, 17. права на выкананне дзеяння.

**Вертыкальна:** 1. спосаб, прыём, 2. суцэльны круг, 3. месца адпачынку гараджан, 4. пітво з садавіны, ягад, 6. тэатральная лялька, 8. іграе на гуслях, 9. волат, 11. парада, 13. раздзяленне на часткі, 14. жаночае імя, 15. савет прадстаўнікоў у Польшчы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 15 н-ра:** „Лявоны", Кобрын, работа, аматар, мастак, медуза, грудзі, гібрыд, Расоны, космас, Сакрат, святар.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч** з Беластока.


## Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




## ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

### АБАЗНАЛІСЯ

Дні літаратур народаў СССР на Беларусі. Дэлегацыі раз'ехаліся па раёнах для сустрэч з чытачамі. Паколькі ў Нясвіжы працавала група армян, вырашылі накіраваць туды армянскага пісьменніка, пра гэта загадзя паведамілі ў райком партыі. Але, на жаль, госць прыхварэў і застаўся ў гасцініцы. Туды паехалі рускі паэт Віктар Бокаў, і наш Пятрусь Макаль. У Нясвіжы не ведалі, што адбыліся змены ў складзе дэлегацыі.

Ї вось сустрэча ў Нясвіжы. Пятрусь Макаль стаў у другім радзе, каб наперад вылучыць гасцей. Але сакратар райкома партыі мінае Віктара Бокава, старэйшага брата, і звяртаецца да Макаля:

— Дарагі армянскі друг! Мы вельмі рады вітаць вас на нясвіжскай зямлі, дзе працуюць нашы землякі, працуюць натхнёна і плённа, мацуючы дружбу народаў...

Увесь час звяртаючыся толькі да Макаля, сакратар райкома ў канцы прамовы дадала:

— А цяпер выступіць армянскі рабочы. Я думаю, вам прыемна будзе пачуць родную армянскую мову.

Макаль спачатку збянтэжыўся, але змірыўся з гэтай роллю, і калі рабочы пачаў чытаць верш Сільвы Капуцікян па-армянску, то стаў нават ківаць галавой. А тут яму як армянскаму паэту даюць слова. Тады Пятро Міхайлавіч і прызнаўся:

— Я не армянскі пісьменнік, а беларускі паэт Пятрусь Макаль.

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**
**(„Полымя")**




Малюнак В. Ключніка

### ЛЁКАІ

Агледзеліся лёкаі,
Што вельмі жыць пагана.
„Давайце, — загалёкалі, —
Мы памяняем пана!

Свайго — далоў з агідаю!
Найлепшы пан — варажскі.
Вось пад яго эгідаю
Зазнаем божай ласкі!

Даволі ў нос нам тыкалі!
Пад новым мы і самі
Паробімся вялікімі
Вяльможнымі панамі!.. —

Ах, бедалагі-лёкаі!
Расчараваць вас мушу:
Не мець вам долі лёгкае,
Не есці з мёдам грушу.

Каб ласку зведаць боскую —
Шпурніце прэч спачатку —
З душы і з плеч — халопскую,
Ліўрэйную апратку.

**НІЛ ГІЛЕВІЧ**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Чаго ты шукаеш у гэтым сметніку?

— Можа, хто выкінуў упакоўкі ад „Чыёчыпсаў". Вышлю ў фабрыку, можа, што выйграю...

— То ты ў гэта верыш?! Гэта ж толькі рэклама! Хочуць, каб людзі больш куплялі, то і заманьваюць выйгрышам.

— Ну, у штосьці жа і камусь трэба верыць.

— Але, вер, вер, і ў фальшывыя акцыі неіснуючай фірмы. На такіх як ты розныя круцялі нажываюцца! Я іграю найлепш — купляю шакаладнае яечка з „сюрпрызам". Там заўсёды нешта ёсць — то пластмасавы дракончык, то машынка, то птушачка...

* * *

— Як табе жывецца? Цяпер, пэўна, у цябе больш часу? За „камуны" ты ўсё наракаў, што час трàціш у чэргах.

— Ды і цяпер не лепей. Колькі часу трэба, каб абысці ўсе крамы, даведацца, дзе танней купіць можна...

* * *

— Як найтанней можна купіць аўтамашыну? Ведаеш?

— Ведаю, вядома. Трэба даць каханай поўны ўклад, і праз дзевяць месяцаў будзе ў вас „малюх".

* * *

— Божа, я ўсё страціла! — лямантуе Кавальская.

— Што вы такое страцілі? — цікавіцца Міхальская.

— Купіла я тыя няшчасныя акцыі! І ўсё прапала! А колькі напазычылася грошай! Што ж цяпер будзе?

— Будзеце ведаць, на што пазычаць грошы.

* * *

— Ці ты кахаеш мяне, любы? — пытае „старая" дзеўка свайго малодшага на пяць гадоў кавалера.

— Ты, Зося, павінна ведаць, што ёсць тры віды кахання: фізічнае, платанічнае, спалучанае з каханнем асобы і яе маёмасці, і партнёрскае, якое спалучае два папярэднія з узаемнай дапамогай каханай асобе.

— А якога кахання я вартая, мой мілы?

— Твайго багацця хопіць нам на ўсё жыццё. Секс прыйдзе сам, а як з партнёрствам будзе, я не ведаю.

Запісала **АЎРОРА**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## Д'ЯБЛЫ

### Д'ябал-вясельнік

Гэтая пачвара мае досыць вузкую спецыялізацыю: займаецца выключна крадзяжом нявестаў з вяселляў. Змагацца з ім не так ужо і цяжка, калі непахісна прытрымліваецца правілаў, выпрацаваных народнаю мудрасцю і шматвяковым досведам.

Вось адна з апошніх гісторый, удзельнікам якой была гэтая істота. Увесну гэтага года ў менскай рэстарацыі „Теремок", сумна вядомай тым, што ў ёй збіраюцца выключна прадстаўнікі сексуальных і нацыянальных меншасцяў: пераважна гомасексуалісты, садаміты, расейскія нацыянал-фашысты і сябры фан-клуба Уладзіміра Жырыноўскага, браліся шлюбам прыхільнікі „Народнага руху за адраджэнне Расійскае імперыі ў межах 1913 года".

Швейцар — этнічны беларус — папярэдзіў маладых, каб тыя не балявалі пасля поўначы, але тыя толькі з пагардлівай усмешкай паставіліся да іншаземных звычаяў. Вясельнікі, як і мае быць, ужо праз гадзіну панапіваліся ва ўмат: пускалі каламутныя патрыятычныя слёзы і спрабавалі зацягнуць улюбёную песню апошняга імператара пра „Россию — мать твою", але словаў да канца не ведаў ніхто. Нарэшце размілаваныя алкаголем і патрыятычнымі пачуццямі шавіністы замовілі музыкам граць „Камаринскую"; ледзь толькі прагучалі апошнія словы запеўкі „Ах ты, сукин сын — комаринский мужик, он, задрав штаны, по улице бежит...", як гадзіннік адбіў поўнач. І тут у банкетнай зале з'явіўся новы госць, чорны фрак і цыліндар якога на тле чырвоных касаваротак, картузоў і казацкіх папахаў глядзеўся недарэчна. Але сябры-аднадумцы жаніха палічылі гэта за п'яную мроіо, а сваякі нявесты — за прадстаўніка „Славянского собора". Дзіўны госць, карыстаючыся тым, што жаніх, са слязьмі згадваючы родную казацкую станіцу таптаў пасярэдзіне залы сваю папаху, шляхетна запрасіў да танца нявесту. Тая, натуральна, згадзілася. Вясельнікі моцна здзівіліся, пачуўшы, што музыкі на замову госця зайгралі тубыльскі танец „Лявоніху", але важкіх супрацьаргументаў не знайшлося, бо яшчэ нядаўна гучалі тосты „за меншых братоў беларусаў".

Бубнач, які сядзеў з самага краю, заўважыў, што з-пад фалдаў фрака ў дзіўнага фацэта тырчыць бухматы хвост і ўсё зразумеў. Не перарываючы рытму ён папярэдзіў усіх музыкаў: „Глядзіце, з нявестай танчыць Д'ябал-вясельнік!"

І тыя ж, змовіўшыся, грымнулі „Магутны Божа..."

Д'ябал, пачуўшы святы гімн, схапіў нявесту пад паху і скочыў з ёю ў расчыненае акно. Зніякавелыя госці не змаглі даць рады; нявеста знікла назаўсёды.

Такім чынам зняважа звычаяў і фальклору народа, сярод якога жывеш, часта прыводзіць да драматычных наступстваў.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**і МАРЦІН ЮР**

## СЕНТЭНЦЫІ

Платанічнае каханне смакуе
як віно ў закаркаванай бутэльцы.

* * *

Старому і ногі перашкаджаюць
у хадзе.

* * *

Крайнасці існуюць дзеля таго,
каб любавацца цэнтрам.

* * *

Розніца паміж запісанай і чыстай
старонкамі такая, як паміж тым,
што ёсць і тым, што будзе.

**БАРЫС РУСКО**




Мілае Сэрцайка! Ці патрапіш ты зразумець разбітае сэрца маці? Маці, якая ўсё, што мела, аддала свайму адзінаму дзіцяці і ўзамен атрымала адчужанасць і варожасць...

Дачушка наша нарадзілася, можна сказаць, як пацеха нам на старыя гады. Было нялёгка, муж шмат працаваў, а я займалася выхаваннем малой. Даглядала, як яна піша, чытае, вадзіла ў басейн, каб вучылася плаваць, давала прыватныя лекцыі англійскай мовы. Па меры дарастання дачкі я цікавілася ўсімі яе справамі, жыла толькі імі. Муж у той час знайшоў сабе маладзейшую за мяне каханку, але нават гэты факт не вывеў мяне з раўнавагі, бо ўсе мае пачуцці сканцэнтраваліся на дачцэ. Зрэшты, грошы даваў.

Дачка вырасла на нябрыдкую дзяўчыну і закахалася. Закахалася першым дзявочым каханнем, на смерць і жыццё, як кажуць. Было гэта, калі яна была на студыях. Дахадзіла з ім якраз да канца навукі (яны вучыліся разам), а пасля ён, нічога не гаворачы і не тлумачачы, выехаў у свае бакі.

Сэрцайка! Прыходзіў ён да нас штодзень, а я рыхтавалася да яго візіту, як да нейкага свята. Варыла, смажыла, рабіла салаты. А ён частаваўся, хваліў — і маё сэрца цешылася. Ці ж я хацела, каб ён за яду ажаніўся з маёй дачкой?! Мне проста было шкада хлопца, які жыве далёка ад дому і бацькоў. Яму ж такая страва — як мёдам па сэрцы.

Часамі я любіла з ім паразмаўляць, асабліва тады, калі забягаў да нас, а дачкі не было дома. Пэўна, што мяне цікавіла, якія ў яго планы на будучыню наконт маёй дачкі. Гэта ж маё дзіця! Ён аднак нічога канкрэтнага мне ніколі не сказаў, і гэта мяне засмучвала.

Калі нярàз я нешта ўбачыла прыгожае ў краме, дык купляла яму, не баючыся, што, можа, не аддасць грошай. Ён усё гэта прымаў як належнае. Дачка была закаханая без памяці і на іншых хлопцаў нават не глядзела. Але і ён ствараў уражанне, што заангажаваны. Усюды бывалі разам, нават летам выязджалі разам адпачываць.

Праз тры гады іх „хаджэння" я не вытрымала і паставіла пытанне рубам: жаніцца ён збіраецца, ці не? І ён неяк заткнуўся, нават некалькі дзён не прыходзіў, але пасля яму ўсё прайшло і зноў было па-старому.

Калі выехаў, дачка перажыла шок. Яна ж са сваімі дзявочымі пачуццямі не магла ўявіць сабе такой здрады. Некалькі гадоў была адна, не хацела нікога бачыць. Я нават баялася, што можа трапіць у псіхіятрычную бальніцу. Але неяк абышлося. Зрэшты, дапамагла ёй яе прафесійная праца, якую вельмі любіла.

Гісторыя, як кажуць, любіць паўтарацца. Дачка закахалася ў свае амаль трыццаць гадоў другі раз. На жаль, гэты мужчына мае жонку і дзіця, але не жыве з імі, а з бацькамі. Ізноў сустракаюцца штодзень, ён пад'язджае самаходам і разам яны некуды едуць. Не ведаю, куды яна едзе і калі вернецца, а яна, мая дачушка, зацялася. Апамятайся, кажу, ці ж ты маеш радзіць дзяцей ад жанатых мужчын?! А яна — ні слова. Бачу, што мае ахвоту пайсці з дому, жыць з ім, а мяне гэта раніць, як нажом па сэрцы. То ж гэта неяк не па-людску...

Найгоршае, што ў сварках дачка выказвае ў адносінах да мяне столькі пагарды і нянавісці, што мяне прабірае холадам. Яна лічыць, што гэта я ўсё сапсавала за першым разам, змарнавала ёй жыццё, дык баіцца, каб хаця не ўмяшалася і гэтым разам. Дарагое Сэрцайка, няўжо я хацела свайму дзіцяці пашкодзіць, падумай!

**Сабіна**

Сабіна! Напэўна ты свайму дзіцяці зычыла дабра, у гэтым сумнявацца нельга. Але ты ў сваёй прывязанасці да дзіцяці забылася, што яна — дарослы чалавек, які можа і павінен сам кіраваць сваім лёсам. У першым выпадку, калі ты паставіла хлопцу „пытанне рубам", ён сапраўды мог уявіць сабе, што ты ловіш мужа для дачкі. Нават калі хацеў жаніцца, дык пасля такога патрабавання магло яму адхацецца. Ды і лішне скакала ты каля яго.

Я разумею твой жаль да дачкі, якая цяпер хаваецца перад табою, але ж зразумей і ты яе! Дай ёй адпачыць ад сваёй асобы! Няхай робіць, што хоча, абы была шчаслівая. Можа і на тваім твары тады паявіцца ўсмешка.

**СЭРЦАЙКА**